

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*

# НАША СЛОВА




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года № 5 (640) 4 ЛЮТАГА 2004 г.

## ПАСЕДЖАННЕ РАДЫ ТБМ



1 лютага 2004 года ў Менску адбылося паседжанне Рады ГА "Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны".

Паседжанне пачалося з віншавання знакамітых сяброў ТБМ Анатоля Грыцкевіча, Міколы Савіцкага, Леаніда Лыча з юбілеямі. Асабіста на Радзе прысутнічалі АнатольГрыцкевіч і Мікола Савіцкі.

Рада разгледзела наступныя пытанні: "Справаздача старшыні ТБМ А. Трусава аб працы арганізацыі ў 2003 г.", "Аб працы камісій ТБМ", "Абмеркаванне і зацверджанне плана работы на 2004 г.", "Аб сітуацыі вакол сядзібы ТБМ", "Прыняцце звароту да Ўраду", "Прыняцце звароту да беларускай моладзі", "Прыняцце закліку "Свята роднай мовы" да грамадзянаў беларусі з нагоды Міжнароднага дня роднай мовы", "Аб удзеле ТБМ у заснаванні Міжнароднай асацыяцыі "Беларускі дом праваабаронцаў" і інш.

На Радзе адбылася зацікаўленая размова па ўсіх пытаннях, абазначаных у парадку дня. Асаблівая ўвага была ўдзелена плану работы арганізацыі і сітуацыі вакол сядзібы ТБМ.



Уганараванне Міколы Савіцкага на Радзе ТБМ

Па ўсіх пытаннях прынятыя адпаведныя пастановы. Большасць матэрыялаў Рады будзе апублікавана ў наступных нумарах газеты.

*Наш кар.*

## Аркадзю Куляшову - 90

6 лютага спаўняецца 90 гадоў з дня нараджэння Народнага паэта Беларусі Аркадзя Куляшова.

Аркадзь Куляшоў нарадзіўся ў в. Саматавічы Касцюковіцкага раёна. У час вайны працаваў у армейскай газеце "Знамя Советов", у Беларускім штабе партызанскага руху. У 1945-46 рэдактар газеты "Літаратура і мастацтва", у 1958 - 1967 нач. сцэнарнага аддзела, гал. рэдактар кінастудыі "Беларусьфільм".

Друкаваўся з 1926 года. Напісаў і выдаў мноства зборнікаў вершаў і паэмаў. Класік беларускай савецкай літаратуры. Шмат твораў прысвечана ваеннай тэматыцы. Паэму "Сцяг брыгады" вучылі многія пакаленні беларускіх школьнікаў. Аркадзь Куляшоў атрымаў за яе Дзярж. прэмію СССР у 1946 годзе. Яшчэ адну Дзярж. прэмію СССР А. Куляшоў атрымаў у 1949 годзе за паэму "Новае рэчышча".

А. Куляшоў стварыў паэтычны вобраз Кастуся Каліноўскага ў драматычнай паэме "Хамуціус". Сааўтар сцэнарыяў фільмаў "Чырвонае лісце" і "Першыя выпрабаванні"(па матывах трылогіі "На ростанях" Якуба Коласа.

Пераклаў на беларускую мову "Яўгенія Анегіна" і "Цыганоў" Пушкіна.



Перакладаў з рускай і украінскай моваў, у тым ліку, "Энеіду" Катлярэскага.

Імя А. Куляшова носіць Магілёўскі дзяржаўны універсітэт, імем паэта названы школы і вуліцы.

## ЗАЯВА
### Рады РГА "Беларускі ПЭН-Цэнтр"

З паведамленняў сродкаў масавай інфармацыі нам стала вядома пра факты стварэння дзяржаўнымі структурамі перашкодаў для выдання і распаўсюджвання "Белорусской деловой газеты", а таксама пра намаганні службаў, падкантрольных дзяржаўным структурам, фактычна пазбавіць юрыдычнага адрасу Рэспубліканскае грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" і выдаваныя з яго ўдзелам газеты "Наша слова" і "Новы час".

Зыходзячы з таго, што Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь зафіксаваная недапушчальнасць дамінавання якой-небудзь адной ідэалогіі, гарантаваныя правы грамадзян на атрыманне поўнай, разнастайнай і праўдзівай інфармацыі, права на атрыманне паўнавартаснай інфармацыі на беларускай мове;

беручы пад увагу той факт, што члены РГА "Беларускі ПЭН-Цэнтр" у адпаведнасці са сваімі статутнымі задачамі супрацоўнічаюць як з вышэйпералічанымі перыядычнымі выданнямі, так і з ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны";

нязменна адстойваючы прынцыпы свабоды слова ў Рэспубліцы Беларусь;

мы разглядаем гэтыя акцыі як спробу парушыць канстытуцыйныя правы нашых грамадзян на своечасовае атрыманне поўнай, праўдзівай, разнастайнай інфармацыі і паўнавартаснае карыстанне беларускай мовай у грамадскай сферы, выказваем свой пратэст супраць спробаў ускладнення дзейнасці вышэйназваных газет і грамадскага аб'яднання, заклікаем кампетэнтныя ўладныя структуры спыніць падобныя акцыі як ганебныя для нашай дзяржавы.

**Прынята на пасяджэнні Рады РГА "Беларускі ПЭН-Цэнтр" 27.01.2004 г.**

## Сустрэча ў сядзібе ТБМ

26 студзеня сядзібу ТБМ наведалі супрацоўнікі амерыканскай амбасады спадарыня Шэран Амбэр і спадар Ян Гэрнер. Яны сустрэліся з кіраўніцтвам ТБМ і выказалі сваю занепакоенасць лёсам сядзіба ТБМ, якую улады хочуць неўзабаве адыбраць. Старшыня ТБМ алег Трусаў, а таксама яго намескікі Алена Анісім: Сяржук Кручкоў далі падрабязную інфармацыю аб дзейнасці ТБМ, арганізацыі, якой у гэтым годзе спаўніцца 15 гадоў.

Алег Трусаў распавёў пра усе захады зробленыя для выратавання сядзібы, з якой аднойчы ТБМ ужо высялялі. Бакі выказалі спадзяванне, што ТБМ застанецца ў сваёй сядзібе і надалей.

*Наш. кар.*

**Таварыства Беларускай Культуры ў Літве**
**Вільня, Жыгіманта 12-3**
**28 студз. 2004 г. Нр.188**

**СТАРШЫНІ МІНСКАГА ГАРАДСКОГА ВЫКАНАЎЧАГА КАМІТЭТУ**
**Паўлаву Міхаілу Якаўлевічу**

Рада Таварыства Беларускай Культуры на сваім паседжаньні абмеркавала сытуацыю, ў якой апынулася буйнейшая грамадзкая арганізацыя ў Беларусі "Таварыства беларускай мовы ім. Ф.Скарыны".Фактычна ёй адмаўляюць у памешканьні, якое яна займала на працягу 15 гадоў. Нам у Літве немагчыма зразумець такія адносіны да адзінай арганізацыі, якая спрыяе захаваньню і развіцьцю беларускай мовы, якой пагражае поўны занпад.

Ад імя беларусаў замежжа патрабуем спыніць акцыю па ліквідацыі ТБМ і адмяніць рашэньне Партызанскага раёна г. Мінска.

**Старшыня Рады Таварыства Беларускай Культуры ў Літве Хведар Нюнька.**

# Вынікі конкурсу “Рупліўца беларушчыны”

У другой палове 2003 года Таварыства беларускай мовы абвясціла конкурс “Рупліўца беларушчыны”, які быў падтрыманы Згуртаваннем Беларусаў Вялікае Брытаніі (спадарыняй Лёляй Міхалюк, спадаром Міхаілам Швэдзюком).

Конкурс меў на мэце асэнсаванне ролі Кастуся Каліноўскага і паўстання 1863 года, Максіма Гарэцкага, Язэпа Лёсіка, Наталлі Арсенневай у развіцці беларускай мовы. Ён праводзіўся сярод вучняў 9-11 класаў школ, гімназій і ліцэяў Беларусі, а таксама сярод студэнтаў і навучэнцаў. Неабходна было падаць літаратурны ці публіцыстычны твор (эсэ, артыкул, верш і г.д.), прысвечаны дадзенай тэматыцы.

Журы атрымала 104 работы, якія адпавядалі ўмовам конкурсу. 20 работ падалі студэнты БДУ культуры, 64 — студэнты Беларускага дзяржаўнага тэхналагічнага універсітэта, 7 работ з Менска і 13 з розных рэгіёнаў Беларусі. Кастусю Каліноўскаму былі прысвечаныя 32 работы, паўстанцам—24, Максіму Гарэцкаму – 26, Наталлі Арсеневай – 20, Язэпу Лёсіку—5.

У снежні адбылося падвядзенне вынікаў і ўганараванне пераможцаў. Прызы атрымалі ўсе без выключэння ўдзельнікі. Сярод прызоў—кнігі Уладзіміра Арлова “Краіна Беларусь”, “Ордэн белай мышы”, Вольгі Іпатавай “Альгердава дзіда”, Алеся Краўцэвіча “Утварэнне ВКЛ”, кнігі, выдадзеныя ў замежжы і дасланыя а. Аляксандрам Надсанам з Лондана і інш. Мяккія цацкі ў якасці прызоў былі перададзеныя Марыяй Міцкевіч, старшынёй дзіцячага фонду “Сакавік”.

Прызы ўручалі Уладзімір Арлоў, Вольга Іпатава, пляменнік Максіма Гарэцкага акадэмік Радзім Гарэцкі, унучка Якуба Коласа і сваячка Язэпа Лёсіка Марыя Міцкевіч.

Цікавую гутарку з моладдзю правяла журналіст радыё “Свабода” Валянціна Аксак. Высветлілася. што многія ўпершыню сустрэліся з паэзіяй Наталлі Арсеньевай, зацікавіліся падзеямі паўстання 1863 года, асаблівасцямі біяграфіі Максіма Гарэцкага і Язэпа Лёсіка пад уплывам бацькоў, і фонды хатніх бібліятэк сталі першай крыніцай інфармацыі.

Сярод найлепшых работ—эсэ, апавяданні, вершы, дзённікі, малюнкі і інш.

## Спіс пераможцаў конкурсу

| № п/п | Месца | Бал | Прозвішча, імя | Месца вучобы або жыхарст. |
|---|---|---|---|---|
| 1. | 1 | 20 | Алена Мамонька | БДУК |
| 2. | 1 | 20 | Панфілава Алеся | БДУК |
| 3. | 1 | 20 | Алена Акуліч | БДУК |
| 4. | 2 | 19 | Таццяна Свірыдовіч | БДУК |
| 5. | 2 | 19 | Антон Ермалёнак | г. Мёры |
| 6. | 2 | 19 | Юлія Дзіцэвіч | Мінск Каледж № 24 |
| 7. | 3 | 18 | Ілля Мартынчук | в. Н. Лышчыцы Бр. вобл. |
| 8. | 3 | 18 | Даша Назарук | Чэрвень |
| 9. | 3 | 18 | Яўген Грыневіч( 2 работы) | Мінск |
| 10. | 3 | 18 | Таццяна Чарняўская | БДУК |
| 11. | 3 | 18 | Вікторыя Корсак | БДУК |
| 12. | 3 | 18 | Пятых Надзея | БДТУ |
| 13. | 3 | 18 | Пермінава Наталля | БДТУ |
| 14. | 3 | 18 | Глушань Таццяна | БДТУ |
| 15. | 3 | 18 | Ікан Алена | БДТУ |
| 16. | 4 | 17 | Акінчыц Вольга | БДТУ |
| 17. | 4 | 17 | Юлія Батура | БДУК |
| 18. | 4 | 17 | Маргарыта Пятруша ( 2 работы) | Бабруйск |
| 19. | 4 | 17 | Ніна Дайлідзёнак | в. Асруб-Беразавецкі, Глыбоц. р-н |
| 20. | 4 | 17 | Уладзімір Барткевіч | Глыбокае |
| 21. | 4 | 17 | Марына Бегункова | Горкі |
| 22. | 4 | 17 | Марына Дударэнка | Гомель |
| 23. | 5 | 16 | Віялета Кандратовіч | Мар'інаГорка Пух. р-н |
| 24. | 5 | 16 | Святлана Трапянок | школа-сад Палоты Пол р-н, |
| 25. | 5 | 16 | Надзея Крыўко | Дзісна |
| 26. | 5 | 16 | Антон Трафімовіч | Слонім |
| 27. | 5 | 16 | Марына Шулепава | в. Перароў, Жытк. р-н |
| 28. | 5 | 16 | Алесь Дубовік | Вілейка |
| 29. | 5 | 16 | Алена Цітавец | БДУК |
| 30. | 5 | 16 | Юльяна Скопава | БДУК |
| 31. | 5 | 16 | Наталля Амельчэня | БДУК |
| 32. | 5 | 16 | Лянкевіч Уладзімір | Мінск |
| 33. | 5 | 16 | Круглоў Дзмітрый | БДТУ |
| 34. | 5 | 16 | Барташэвіч Ала | БДТУ |
| 35. | 5 | 16 | Кукенаў Павел | БДТУ |
| 36. | 5 | 16 | Бельмач Таццяна | БДТУ |
| 37. | 6 | 15 | Рудак Аляксей | БДТУ |
| 38. | 6 | 15 | Судзінко Таццяна | БДТУ |
| 39. | 6 | 15 | Калач Дзмітры | БДТУ |
| 40. | 6 | 15 | Окава Надзея | БДТУ |
| 41. | 6 | 15 | Грышчук Іна | БДТУ |
| 42. | 6 | 15 | Куленіч Святлана | БДТУ |
| 43. | 6 | 15 | Суміч А. | БДТУ |
| 44. | 6 | 15 | Уціна Ірына | БДТУ |
| 45. | 6 | 15 | Красоўскі Сяргей | Мінск |
| 46. | 6 | 15 | Зялёнка Надзея | БДУК |
| 47. | 6 | 15 | Знак Святлана | БДУК |
| 48. | 7 | 14 | Харэвіч Кацярына | БДУК |
| 49. | 7 | 14 | Уласевіч Вера | БДУК |
| 50. | 7 | 14 | Трэфілаў Сяргей | Мінск |
| 51. | 7 | 14 | Чылікін-Садэльскі Серж | Мінск |
| 52. | 7 | 14 | Пятрэнка Дзяніс | БДТУ |
| 53. | 7 | 14 | Баршчэўскі Арцём | БДТУ |
| 54. | 7 | 14 | Гардзейчык Таццяна | БДТУ |
| 55. | 7 | 14 | Крыловіч Таццяна | БДТУ |
| 56. | 7 | 14 | Мядзведзеў Васіль | БДТУ |
| 57. | 7 | 14 | Гоманава Наталля | БДТУ |
| 58. | 7 | 14 | Карпаў Аляксей | БДТУ |
| 59. | 7 | 14 | Сялюн Наталля | БДТУ |
| 60. | 7 | 14 | Ленец Анастасія | БДТУ |
| 61. | 7 | 14 | Карповіч Таццяна | БДТУ |
| 62. | 8 | 13 | Чурун Іна | БДТУ |
| 63. | 8 | 13 | Мільто Яўген | БДТУ |
| 64. | 8 | 13 | Далідовіч Надзея | БДТУ |
| 65. | 8 | 13 | Сілко Ірына | БДТУ |
| 66. | 8 | 13 | Кудзіна Вјльга | БДТУ |
| 67. | 8 | 13 | Сталяроў Аляксандр | БДТУ |
| 68. | 8 | 13 | Барыла Святлана | БДУК |
| 69. | 8 | 13 | Ханеня Таццяна | БДУК |
| 70. | 8 | 13 | Секержыцкая Ірына | БДУК |
| 71. | 8 | 13 | Шамбалава Таццянав. | Сенькава, п\а Княжыцы, Магіл. р-н |
| 72. | 9 | 12 | Вольга Магошка | БДУК |
| 73. | 9 | 12 | Гізун Алесь | Баранавічы |
| 74. | 9 | 12 | Глінская Вольга | БДУК |
| 75. | 9 | 12 | Разікава Наталля | БДУК |
| 76. | 9 | 12 | Лукша Павел | БДТУ |
| 77. | 9 | 12 | Амяляшчык Сяргей | БДТУ |
| 78. | 9 | 12 | Яцэвіч Алег | БДТУ |
| 79. | 9 | 12 | Грыханаў Віктар | БДТУ |
| 80. | 9 | 12 | Сінчук Юлія | БДТУ |
| 81. | 9 | 12 | Пашкевіч Аляксандр | БДТУ |
| 82. | 10 | 11 | Кулік Ігар | БДТУ |
| 83. | 10 | 11 | Стаховіч Людміла | БДТУ |
| 84. | 10 | 11 | Вайтко Андрэй | БДТУ |
| 85. | 10 | 11 | Дылько Павел | БДТУ |
| 86. | 10 | 11 | Шабуня Раман | БДТУ |
| 87. | 10 | 11 | Озем Вацлаў | БДТУ |
| 88. | 11 | 10 | Саўчык Мікалай | БДТУ |
| 89. | 11 | 10 | Шчаўкуноў Павел | БДТУ |
| 90. | 11 | 10 | Маруга Аляксей | БДТУ |
| 91. | 11 | 10 | Ляпешка Мікалай | БДТУ |
| 92. | 11 | 10 | Шаўцова Алеся | БДТУ |
| 93. | 11 | 10 | Хорт Мікалай | БДТУ |
| 94. | 12 | 9 | Шкроб Вольга | БДТУ |
| 95. | 12 | 9 | Мартыненка Уладзіслаў | БДТУ |
| 96. | 13 | 8 | Папко Раман | БДТУ |
| 97. | 13 | 8 | Рыўераў Сяргей | БДТУ |
| 98. | 13 | 8 | Багданава Яўгенія | Гомель |
| 99. | 15 | 6 | Жукаў Андрэй | БДТУ |
| 100. | 16 | 5 | Праковіч Павел | БДТУ |



**Старшыня ТБМ Алег Трусаў, пісьменніца Вольга Іпатава, кіраўнік праекту Людміла Дзіцэвіч з пераможцамі конкурсу ў сядзібе ТБМ.**

*Кіраўнік праекту Людміла Дзіцэвіч.*

## Віленскай беларускай гімназіі – 85

*Хто ў гімназіі вучыўся,*
*Тых часоў ён не забыўся:*
*Хоць і цяжка нам было –*
*Слова роднае жыло.*
*Адусюль з зямлі каханай,*
*У той час акупаванай,*
*Ехалі мы і пешкі шлі*
*Ў Вільню родную, каб звацца*
*Чалавекам на зямлі...*
*(Мікола Рулінскі.)*

Першага лютага 1919 г. у Вільні пачала працаваць беларуская гімназія. Лявон Луцкевіч – вучань гімназіі ў сваёй кнізе “Вандроўкі па Вільні” падае ўспаміны адной з першых абітурыентак Марыі Скурчанкі: “Адкрыццё гімназіі адпавядала вялікай, даўно насьпелай патрэбе беларускага народу мець у Вільні, як у гістарычным цэнтры беларускае культуры, сваю сярэднюю школу”. Фармальна закладчыкам Віленскай Беларускай Гімназіі (ВБГ) быў Беларускі камітэт помачы пацярпеўшым ад вайны. Афіцыйнае адкрыццё гімназіі было абвешчана загадам міністра Літоўскае Тарыбы Біржышкі ад 4 студзеня 1919 года. Ініцыятарам і стваральнікам яе быў віленскі археолаг Іван Луцкевіч. Вельмі кароткі час (месяц), будучы безнадзейна хворым, ён працаваў выкладчыкам у гімназіі. У гімназіі выкладалі беларускую літаратуру Максім Гарэцкі, Леаніла Чарняўская, беларускую мову – Алена Сакалова-Лекант, матэматыку – Барыс Кіт, рэлігію – Адам Станкевіч, спевы – Сымон Кароль, мастацкай студыяй кіраваў Язэп Драздовіч, хорам – Рыгор Шырма. У гімназіі працавалі Антон Луцкевіч, Хведар Ільяшэвіч, Ігнат Дварчанін і іншыя вядомыя дзеячы навукі і культуры.

На працягу дваццаці пяці гадоў існавання (1919-1944 гг.) яна кавала кадры свядомай беларускай інтэлігенцыі, якая ўнесла свой важкі ўклад у нацыянальна-вызвольны рух Заходняй Беларусі. У Базыльянскіх мурах у міжваенны час утварыўся моцны беларускі асяродак, сапраўдны культурны цэнтр у Вільні.

Пачынаючы з 1921 года ўсе прадметы ў гімназіі выкладаліся па-беларуску. У 1922 годзе ў гімназіі вучылася 25% беларусаў, у 1923-28%, у 1928-99%. У 1921 годзе закончыла гімназію Натал-ля Арсеньева, у графе “нацыянальнасць” яна запісала – беларуска.

Па ўсім свеце раскідаў лёс былых выпускнікоў і выкладчыкаў і ўсюды яны змаглі захаваць беларускасць і пакінуць след: В. Жук – Грышкевіч, Барыс Кіт, В. Тумаш, Н. Арсеннева, Раіса Жук-Грышкевіч, Я. Станкевіч, Зоя Коўш, Лявон Луцкевіч, а многія за беларускасць адседзелі ў сталінскіх лагерах: Лявон і Юры Луцкевічы, Мікола Гулінскі, Максім Гарэцкі, Алена Сакалова–Лекант, Зоя Коўш, вярнуліся ў 60-я гады, зноў збіраліся разам, успаміналіся лепшыя гады вучобы, пісалі ўспаміны.

**1989 г.**

У 1989 годзе ў Палацы прафсаюзаў сціпла адзначылі 70-годдзе гімназіі, з былых вучняў былі Янка Багдановіч, Лявон Луцкевіч, Юры Луцкевіч, Лявон Кароль, Зоя Коўш, С. Тулейка, Яраслаў Станкевіч, Міраслава Русак. Тады яшчэ голасна не гаварылі аб легендарнай гімназіі- перабудова толькі пачыналася. Узніклі першыя беларускія суполкі пасля амаль пяцідзесяцігадовага замоўчвання: “Сябрына” і Таварыства Беларускай Культуры.

**1994 г.**

75 годдзе ВБГ адзначалі ў Вільні шырока. У Беларусі пад'ём адраджэнцкага руху, у Вільні ўжо працавала беларуская школа. Юбілей гімназіі адзначалі ў Базыльянскіх мурах, ініцыятарамі правядзення былі беларусая школа і катэдра беларусістыкі. Выпускнікі прыехалі з Беларусі, Польшчы, атрымалася незабыўнае свята – сустрэча тых, хто некалі вучыўся ў Вільні, слёзы радасці, хваляванне і першыя вучні і студэнты беларускіх вучэльняў – напрыканцы ХХ стагоддзя. Экскурсіі па беларускіх мясцінах Вільні, наведванне могілак на Росах і Ліпоўцы.

**1999 г.**

80-годдзе гімназіі святкавалі ў школе, у гэты дзень адбылося адкрыццё таблiцы, зробленай менскім скульптарам Ул. Лятунам, шмат ганаровых гасцей з Міністэрства адукацыі Беларусі і Літвы. А самыя дарагія – Галіна Войцік – Луцкевіч, Міраслава Гусак і Яраслаў Станкевіч, яны дзеляцца ўспамінамі аб дарагім для нас перыядзе беларусай гісторыі. Яраслаў Станкевіч яшчэ выкладаў хімію ў нашай школе, аўтар дапаможнікаў па неарганічнай хіміі, акрамя гэтага вёў гурток гульні ў шахматы. На другі дзень свята прадоўжылася ў будынку былой гімназіі.

Час ляціць хутка. 1 лютага ў беларускай школе стала традыцыйным святам, адзначаецца кожны год. Пра віленскую беларускую гімназію напісаў у сваёй кнізе Янка Багдановіч “На жыццёвым шляху” (1992г.) Лявон Луцкевіч успамінае ў кнізе “Вандроўкі па Вільні (1997 г.), Барыс Кіт (успаміны запісаны Васілём Быкавым), Галіна Войцік – Луцкевіч друкавала ў “Руні”, М. Пецюкевіч – у кнізе “У пошуках зачараваных скарбаў”, Ю. Вітан – Дубейкаўская “Мае ўспаміны”, шмат сабрана матэрыялаў, фотаздымкаў. Але гісторыя Віленскай Беларускай Гімназіі заслугоўвае грунтоўнай працы. Гляджу на здымак, зроблены ў 1994 годзе, з тых, былых навучэнцаў засталося ў жывых толькі трое, астатнія пакінулі гэты свет. У гэтым годзе гімназіі – 85, зноў сустрэчы, вяртанне ў гісторыю, наведванне Базыльянскіх мураў. А я пайду на магілу Міколы Рулінскага, палажу бела-чырвона-белыя гваздзікі, такія, якія ён вельмі любіў

*Леакадзія Мілаш, г. Вільня.*

# З беларускай мовай да “хімічных вяршынь”

Уявіце сабе цалкам рукамоўную газету, у самай сярэдзіне якой раптам на вашыя вочы пападаюць тры абзацы тэксту на беларускай мове.

Як такое магло здарыцца? Рэклама – не. Капрыз галоўнага рэдактара – не. Партызанская дзейнасць ТБМ – таксама не. Аказалася, што гэта караценькае інтэрвію з маладым чалавекам, які паўсюдна прынцыпова размаўляе па-беларуску. Аўтару артыкула не заставалася нічога, як слухаць і задаваць пытанні таксама па-беларуску.

Беларускамоўны юнак – асоба, вартая таго, каб чытачы “Нашага слова” пазнаёміліся з ім. Справа тут не толькі ў тым, што ў нашым жыцці ой як цяжка штодзённа захоўваць цвёрдую пазіцыю ў дачыненні да мовы. Герой нашага інтэрвію – Вячаслаў Бернат – чалавек, які праславіў краіну на сусветным узроўні, стаўшы срэбным прызёрам Міжнароднай алімпіяды па хіміі ў Афінах зімой 2003 года. Адным словам, ён адзін з тых, каго можна назваць “мазгамі нацыі”, тым больш што гэтыя мазгі думаюць на тытульнай мве той краіны, у якой яны нарадзіліся.

***— Вячаслаў, што ў Вашае жыццё ўвайшло першым: мова ці хімія?***

— Першай была хімія. Адбылося гэта напрыканцы 7 класа, калі мой стрыечны брат падсунуў мне кніжку пра хімію. У той час ён быў прызёрам рэспубліканскай алімпіяды па гэтай дысцыпліне. Брат заўважыў мне, што нават каля я не буду сур’ёзна займацца хіміяй, дадатковыя веды не будуць лішнімі.

Адносна мовы я нават не ведаю, адкуль прыйшла да мяне гэтая патрэба: можа спрыянне ліцэя БДУ, у якім я цяпер вучуся, а можа нешта іншае. Дарэчы, вялікі ўплыў на мяне аказала творчасць Уладзіміра Караткевіча, з якой я пачаў добра знаёміцца якраз трошкі больш за год таму. Ну і вось потым быў тыдзень беларускай мовы ў ліцэі, у час якога ўсе абавязваліся размаўляць на беларускай мове. Гэта быў як бы першы штуршок, а потым я проста паставіў сабе мэту: перайсці на беларускую мову, пачаўшы размаўляць з 2003 года. Адзін з маіх аргументаў: ну якая розніца, на якой мове размаўляць, у нас жа дзве дзяржаўных мовы, калі адны гавораць па-расейску, дык іншыя могуць выбіраць і па-беларуску. Добра, каб было 50 на 50.

***— А бацькі на якой мове размаўляюць?***

— Ну, бацькі самі з вёскі, пераехалі ў Мінск таму размаўляюць на “трасянцы”.

***— У Вашым ліцэі шмат хто гаворыць на беларускай мове?***

— Не, дарэчы, вельмі мала хто, лічаныя адзінкі, хаця да таго, як я паступіў туды, я лічыў інакш. Заняткі амаль ўсе ідуць на рускай мове, і хімія – не выключэнне.

***— Што зрабіла школа для фармавання Вашага паважлівага стаўлення да беларускіх каштоўнасцяў, разумення самабытнасці мовы і культуры?***

— Школа, дарэчы, шмат зрабіла, пачынаючы з першых класаў. Пачынаў вучыцца я ў СШ № 207, першых чатыры гады навучанне ішло на беларускай мове, усе прадметы выкладаліся па-беларуску. А калі надышоў пераход з чацвёртага ў пяты клас, рэзка ўсё змянілася. І гэта выклікала натуральны дзіцячы пратэст. Змена адбылася не без уплыву бацькоў. Агіднае пачуццё ад гэтага гвалтоўнага дзеяння засталося надоўга. За нас вырашылі нашае будучае, абмежавалі нашую свабоду выбару.

У першыя гады патрыятычная падрыхтоўка вучняў была нядрэнна пастаўлена, ва ўсякім разе там, дзе мне давялося вучыцца. Па такіх прадметах, як “Мая Радзіма – Беларусь”, беларуская мова і літаратура мне пашчасціла мець добрых настаўнікаў, энтузіястаў сваёй справы. Памятаю вечар, прысвечаны 70-годдзю У. Караткевіча, потым быў вечар Янкі Купалы. Карацей кажучы, найбуйнейшы ўплыў на маю самасвядомасць як беларуса я атрымаў менавіта з боку школы.

***— Як Вы са сваёй беларускай мовай трымаецеся ў школьным асяроддзі, ці прыходзіцца пераносіць пастаянныя кпіны сяброў?***

— У ліцэі, у прынцыпе, інтэлігентная сабралася публіка. Ніякіх кпінаў я ніколі не чуў, наадварот, нават падтрымку бачу. Ёсць і равеснікі, і настаўнікі, якія размаўляюць са мной на беларускай мове. На занятках гаварыць цяжка, бо не хапае запасу беларускай тэрміналогіі, але там, дзе магчыма, я ўжываю беларускую мову. Памятаю, як здзівілася настаўніца матэматыкі, калі я першы раз “загаварыў”. Але ж ніхто супраць нічога не мае, большасць толькі падтрымлівае.

***— Ці ёсць яшчэ ў тваім класе такія “героі”, як ты?***

— Не, на ўроках такога нешта не прыпамінаю, былі спробы, але нядоўга яны пратрымаліся.

***— Якія галіны хімічнай навукі выклікаюць у Вас найбольшую цікавасць?***

— Найбольшую цікавасць выклікаюць тыя галіны, што дазваляюць праявіць найбольшую творчасць. Гэта, канешне, у першую чаргу, арганічная хімія. Увагу любога хіміка-арганіка прываблівають незвычайна экзатычныя структуры тых ці іншых рэчываў на малекулярным узроўні, ну напрыклад, адамантан, фулерэн, кубан, прапелан. Што самае складанае, то і самае цікавае, як гэта вядзецца.

***— Раскажыце, які быў Ваш шлях да міжнароднай алімпіяды па хіміі ў Афінах.***

— Шлях быў даволі няпросты. Калі б у пачатку гэтага шляху хто-небудзь сказаў мне, што я траплю ў Грэцыю, то я не паверыў бы.

Да пачатку восьмага класа хімію я адольваў з горам папалам. Потым, калі я перайшоў у восьмы клас, мае спробы дэманстраваць свае веды па хіміі нічога не далі. і мне прыйшлося акольнымі шляхамі дазнавацца пра раённую алімпіяду, куды я пайшоў нічога нікому не сказаўшы. На гарадской у мяне было толькі пятае месца, але потым былі зборы, і там я пралез у лік трох, хто пайшоў на рэспубліку.

Пасля рэспублікі з маім трэцім месцам надзеі ў мяне было няшмат, але, дзякуй Богу, мне пашанцавала трапіць на падрыхтоўчыя зборы да Міжнароднай алімпіяды. Наш ментар Віктар Мікалаевіч Хвалюк прытрымліваўся методыкі, калі вучань ставіцца ва ўмовы псіхалагічнага напружання, каб ужо на самой алімпіядзе такога мандражу не было. Нам не абвяшчалі вынікаў таго, што мы рабілі, памятаю, мы хадзілі некалькі дзён, рашалі задачы, не ведаючы, якія ў нас поспехі. І толькі напрыканцы, калі абвясцілі вынікі, у мяне аказалася чацвёртае месца сярод прэтэндэнтаў, якія з’ехаліся з усёй Беларусі (5 першых месцаў з 10 класа і 5 першых месцаў з 11 класа).

Так па выніках першага тура я прайшоў, а мэтай другога тура было ўжо не адбіраць кандыдатаў, а трэніраваць. У суме гэтая падрыхтоўка працягвалася каля месяца. Тэрмін адносна кароткі, таму што, як мы пазней даведаліся, кітайцаў, напрыклад, вывозяць, ізалюючы ад усяго грамадства, аж на 6 месяцаў, і там проста “нашпігоўваюць” хіміяй. Адпаведна і вынікі у кітайцаў заўсёды высокія.

***— Ці бачылі Вы падчас свайго знаходжання ў Афінах алімпійцаў з іншых краін, якія б размаўлялі ўвесь час на мове не сваёй, але суседняй з імі дзяржавы?***

-- Калі браць краіны былога Савецкага Саюза, то руская мова тут у Афінах была інтэрнацыянальнай, і паміж сабой амаль усе размаўлялі па-расейску. Быў, калі быць дакладным, адзін украінец, які прытрымліваўся толькі ўкраінскай мовы, але разумець яго асаблівых цяжкасцяў у мяне не складала. Азербайджанцы размаўлялі ці на сваёй мове, ці на турэцкай, я не зразумеў. З чатырох латвійцаў толькі адзін размаўляў па-расейску, зрэшты, як і ў літоўцаў. А што датычыцца далёкага замежжа, дык, канешне, кожны размаўляў на сваёй мове: бразільцы, аўстралійцы, японцы, егіпцяне.

***— Бачна, што Вы там шмат з кім пазнаё-міліся?***

— Так, гэта праўда, бо асноўная мэта гэтых алімпіядаў – пазнаёміць паміж сабой хімікаў розных краін.

***— Якім Вы бычыце лёс беларускай нацыі, ці прыйдзе яна, на Вашу думку, да разумення сваіх каранёў?***

-- Мне здаецца, што павінна прыйсці. Спачатку з’яўляюцца асобныя энтузіясты, потым да іх далучаюцца іншыя і падтрымліваюць іх ідэі. З часам такіх людзей павінна станавіцца больш. Галоўнае, каб не было супраціўлення з боку вышэйшых дзяржаўных колаў.

***— Вашыя любімыя пісьменнікі наогул, і беларускія ў асабістасці?***

-- Сярод беларускіх – Уладзімір Караткевіч. Вялікую асалоду атрымаў і шмат што зразумеў ад ягоных “Каласоў пад сярпом тваім”, рамана “Хрыстос прызямліўся ў Гародні”. Падабаюцца таксама вершы Караткевіча.

З замежных аўтараў павагу сваёй творчасцю выклікаюць Фёдар Дастаеўскі, Пауло Каэльё.

***— Ці згодны Вы з меркаваннем, што грамадству, асабліва моладзі, з дапамогай сучасных тэхналогій можна прывіць любую ідэалогію, і ніякі прыродны імунітэт не здолее выратаваць нацыю ад вонкавага ўплыву тых, у чыіх руках знаходзіцца ўлада?***

— Не, я не згодны з гэтым. Бо ўсю моладзь гэткай ідэалогіяй усё роўна не ахапіць. Заўсёды будзе заставацца частка людзей, якія маюць уласны розум і здольныя адрозніць сапраўдныя факты ад ідэалагічнага покрыва. Мала, канешне, такіх людзей. Але мне хацелася б верыць, што агульнай ідэалогіяй нельга будзе падпарадкаваць усю моладзь.

***— Ці мае нашая адукацыйная сістэма беларускамоўныя падручнікі па хіміі?***

— Мае. Вось, напрыклад, у свайго малодшага брата я знайшоў падручнік па хіміі для 9 класа сярэдняй школы на беларускай мове. Я быў дужа ўзрадаваны гэтаму, таму што, дарэчы, некаторыя тэрміны падчас вядзення канспектаў мне прыходзіцца проста самому выдумляць.

Але падручнік гэты я не сказаў бы, што вельмі добры, відаць, што пераклад рабіўся з рускай мовы, і пры гэтым ён не заўсёды якасны.

***— Наколькі поўна і зручна, на Ваш погляд, распрацавана хімічная тэрміналогія?***

— На беларускай мове хімічнай тэрміналогіі я амаль што не ведаю, нават ніякага хімічнага слоўніка не маю. Зараз для мяне не вельмі важна перекладаць на беларускую мову хімічныя тэрміны, магчыма, гэта спатрэбіцца ў будучым, але зараз для мяне галоўная задача – збіраць інфармацыю, пашыраць запас сваіх ведаў, карыстаючыся крыніцамі на ўсё роўна якой мове. Можа і ёсць недзе якасная літаратура па хіміі, выдадзеная па-беларуску, але мне не прыходзіла ў галаву нешта там шукаць.

***— Чым захапляецеся у жыцці акрамя хіміі?***

— Самае сталае захапленне акрамя хіміі – гэта музыка. Дзякуючы хіміі, праз пэўны шэраг падзей я прыйшоў да музыкальных плыняў, якія называюць цяжкімі па сваім стыле. Падабаецца N.R.M., Znich, Стары Ольса, з замежных – Sepulture, Immortal, Vader. Яшчэ люблю футбол, займаюся ім на аматарскім узроўні, часам гляджу па тэлевізары футбольныя матчы. З 10 класу хаджу ў трэнажорную залу, стараюся трымаць сябе ў добрай фізічнай форме.

***— Вокам маргнуць не паспееш, як Захад пераманіць Вас да сябе. Калі прыйдзецца працягваць вучобу ды пачынаць працоўную кар’еру за мяжой, ці вернецеся Вы калі-небудзь у Беларусь?***

— Дарэчы, я сумняваюся, што працягваць вучобу буду за мяжой. Зараз пакуль што ў мяне ёсць запал, імкненне нешта змяніць у беларускай хіміі, адкрыць што-небудзь новае, зрабіць якія справы на карысць Радзіме. Але ў галаву ўжо пачынаюць забірацца адпаведныя прагматычныя думкі, што там на Захадзе лепшыя грошы, лепшыя ўмовы для працы і даследванняў, там лягчэй жыць.

***— Як Вы плануеце сваю далейшую адукацыю? Чаго чакаеце наперадзе?***

— Зараз я вяду мэтанакіраваную падрыхтоўку да паездкі на Міжнародную алімпіяду па хіміі ў Германіі і акрамя таго хутка павінна быць Мендзялееўская алімпіяда ў Кішынёве (гэта фінальны тур адкрытай усерасійскай алімпіяды, які ладзіць Маскоўскі дзяржаўны ўніверсітэт і ў якім бяруць удзел таксама краіны СНД). Потым усе удзельнікі гэтай алімпіяды без экзаменаў залічваюцца ў МДУ.

Дарэчы, калі вярнуцца да пытання аб навучанні за мяжой, то ў апошні час я пачынаю схіляцца да варыянту з Маскоўскім дзяржаўным універсітэтам. Проста там умовы для плённай працы намнога лепшыя за беларускія. Ды і паслухаўшы знаёмых як з БДУ, так і з МДУ, я зразумеў , што, калі застануся дома, то ў мяне будзе нават менш шанцаў зрабіць што-небудзь карыснае для Беларусі. А тое, што ў Маскве мне давядзецца сутыкнуцца з шэрагам сур’ёзных праблем, у тым ліку і бытавых, дадае нават нейкай спартыўнай цікавасці.

Ну, а калі не атрымаецца варыянт з Масквой, то моцна не буду сумаваць, а прыкладу ўсе намаганні, каб дасягнуць як мага большага тут, на радзіме. Наконт працы ў Беларусі, я, безумоўна, паспрабую распачаць тут якую-небудзь справу – трэба ж неяк уплываць на развіццё хіміі ў роднай краіне!



*Вячаслаў Бернат першы злева*

***Думкі напрыканцы.***

Цяжка ўявіць сабе рускага чалавека, якога паважаюць, якім ганарацца, якому спачуваюць за тое, што ён гаворыць у сваёй краіне на рускай мове. Таксама, як немагчыма сустрэць паляка, які прыкладвае неверагодныя высілкі, каб застацца сапраўдным палякам у сваёй роднай Польшчы. У дачыненні да Вячаслава Берната пачуцці павагі, гонару і ў той жа час спачування ад таго, як яму прыходзіцца нялёгка, узнікаюць самі сабой.

Таму што ён з усім яго прыродным розумам выбраў іншы шлях, чым тыя што плывуць па цячэнні і не вераць, што здольныя нешта змяніць у гаротным лёсе беларускай нацыі. Таму што кожны дзень ягонай вучобы і працы набліжае нашу краіну да пачэснага месца сярод іншых еўрапейскіх народаў. Таму што ён – каталізатар усіх тых працэсаў і падзей, якія адбудуцца ў нашым грамадстве наперадзе.

***Васіль Кісляк, Менск.***

# Першы праваабарончы форум у Беларусі

У домік адпачынку "На ростанях", што пад Менскам 23-24 студзеня адбыўся форум праваабаронцаў, адным з арганізатараў якога выступіла Міжнародная федэрацыя правоў чалавека. Сярод беларускіх арганізатараў форуму значыцца і ТБМ.

У працы форуму ўдзельнічалі 112 чалавек з Беларусі, 45 – з Францыі, Швецыі, Чэхіі, Польшчы. Літвы. Украіны, Малдовы і Расеі, прадстаўнікі міжнародных праваабарончых арганізацыяў і дыпламатычнага корпусу.

Форум быў даволі прадстаўнічы: сярод вядомых праваабаронцаў, якія выступілі на форуме, можна назваць Сяргея Кавалёва (Міжнародны мемарыял) з Расеі, Філіпа Кафальяна (Міжнародная федэрацыя правоў чалавека) з Францыі, пасла АБСЕ Эберхарда Хайкена, сенатара чэшскага парламенту Здэнака Барта і інш. Былі таксама прадстаўнікі Рады Еўропы, Генеральнага дырэктарату па правах чалавека, Еўрапейскай камісіі Еўрасаюзу.

Удзельнікі абмяркоўвалі сітуацыю з правамі чалавека ў Беларусі.

Асноўная праца праводзілася ў рабочых групах:

- нацыянальныя механізмы абароны правоў і свабодаў чалавека;
- канстытуцыйныя гарантыі і механізмы рэалізацыі выбарчых правоў;
- праблемы гвалтоўных знікненняў (досвед працы міжнародных і беларускіх праваабарончых арганізацыяў);
- свабода слова: прававая база і рэальныя магчымасці дзейнасці сродкаў масавай інфармацыі;
- свабода мірных сходаў, свабода асацыяцыяў;
- **моўныя правы.**

У працы моўнай секцыі прынялі ўдзел прадстаўнікі "Таварыства беларускай мовы", прадстаўнікі беларусіх татараў, цыганоў, беларусаў Літвы. З дакладам выступіў і старшыня "Таварыства ўкраінскай мовы" Кіеўскага універсітэта Віталь Радчук. У час працы секцыі былі ўзняты шматлікія моўныя і культурныя праблемы, якія існуюць у Беларусі.

Секцыя вынесла на разгляд форуму 8 рэкамендацый, якія былі аднагалосна ўхвалены прасутнымі:

1) Падтрымаць навучэнцаў і бацькоў беларускага гуманітарнага ліцэя у іх барацьбе за права вучыцца па-беларуску.

2) Рэкамендаваць ТБМ унеслі прапановы ў "Закон аб мовах" з ўлікам моўных правоў нацыянальных арганізацыяў Беларусі.

Прасіць Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага Сходу Беларусі апублікаваць новы праект "Закона аб мовах" у друку для публічнага абмеркавання.

3) Прапанаваць Міністру адукацыі Беларусі ў адпаведнасці з "Законам аб адукацыі" адкрыць некалькі класаў з навучэннем на цыганскай мове ў месцах кампактнага пражывання цыганоў.

4) Прапанаваць Міністэрству культуры стварыць музеі, прасвечаныя беларускім габрэям, татарам і цыганам.

5) Падрыхтаваць і выдаць сіламі грамадскасці цыганска – беларускі слоўнік альбо размоўнік.

6) Падрыхтаваць чытанку для татарскіх дзяцей па-беларуску кірыліцай і арабскімі літарамі.

7) Да Міжнароднага дня роднай мовы (21 лютага) правесці адпаведнае мерапрыемства, прысвечана гэтай даце.

8) Звяртаем увагу, што судовая сістэма Беларусі звычайна ігнаруе правы грамадзян Беларусі карыстацца роднай мовай пад час следства і судовага працэсу.

У другі дзень удзельнікі форуму прынялі агульную рэзалюцыю з рэкамендацыямі да праваабаронцаў, беларускіх уладаў і міжнароднай супольнасці. Прапановы ТБМ і прадстаўнікоў нацыянальных мяншыняў таксама былі ўлічаныя ў рэзалюцыі. Але пэўнай нечаканасцю для ТБМ стаў супраціў некаторых прадстаўнікоў праваабарончых арганізаяў Беларусі, якія напачатку выступілі супраць унясення прапановаў ТБМ у канчатковую рэзалюцыю форуму, аргументаваўшы гэта тым, што рэзалюцыя мае агульны характар, а прапанова ТБМ па ўнясенні заўвагі пра парушэнні моўных і нацыянальных правоў у краіне – вельмі "канкрэтная". Узнікла нават пэўная напружанасць: старшыня ТБМ А. Трусаў вымушаны быў некальмі разоў выходзіць да трыбуны і адстойваць заўвагі арганізацыі. У выніку былў аб'яўлены перапынак, у час якога бакі знайшлі кампраміс, і заўвагі ТБМ былі ўлічаны.

Звяртае на сябе ўвагу і той факт, што рабочымі мовамі форуму былі расейская і англійская. Пры гэтым расейцаў было не так шмат, украінцы цудоўна разумелі па-беларуску, а гасцям з далёкага замежжа ўсё перакладалі на англійскую перакладчыкі, якія валодалі беларускай мовай. Арганізатары тлумачылі факт адсутнасці беларускай мовы сярод рабочых моў павагай да гасцей, але здаецца, што гэта прыклад звычайнага комплексу моўнай непаўнавартасці, калі асьобныя людзі падсвядома прыніжаюць магчымасці і статус роднай мовы.

## *Вытрымкі з рэзалюцыі беларускіх удзельнікаў Форуму праваабаронцаў Менск, 24.01.2004 г.*

**Мы**, беларускія ўдзельнікі Форуму праваабаронцаў, заслухаўшы даклады і абмеркаваўшы пытанні выканання правоў чалавека ў Рэспубліцы Беларусь, з глыбокай занепакоенасцю за сённяшняе і будучае нашай краіны, адзначаем:

Шматлікія факты парушэнняў правоў чалавека ў Рэспубліцы Беларусь, якія выражаюцца ў палітычна матываваных выкраданнях і пераследзе апанентаў рэжыму, незаконным увядзеннем цэнзуры ў СМІ, пераследзе журналістаў незалежных СМІ за публікацыю матэрыялаў, якія ўтрымліваюць крытыку палітыкі прэзідэнта і яго атачэння, ліквідацыі па ініцыятыве дзяржаўных органаў, у тым ліку і ў судовым парадку, незалежных газет і грамадскіх аб'яднанняў, парушэнні рэлігійных правоў грамадзянаў і іншых парушэннях палітычных, грамадзянскіх, выбарчых, сацыяльных і ***моўных*** правоў.

Шматлікія прынятыя заканадаўчыя акты, не адпавядаюць міжнародным нормам ў галіне правоў чалавека, вядуць да парушэння канстытуцыйных правоў грамадзянаў у Рэспубліцы Беларусь. Сярод іх Законы Рэспублікі Беларусь "Аб свабодзе сумлення і рэлігійных арганізацыях", "Аб масавых мерапрыемствах у Рэспубліцы Беларусь", ***"Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь"***, а таксама праект закона "Аб сродках масавай інфармацыі ў Рэспубліцы Беларусь".

У Рэспубліцы Беларусь адсутнічае незалежная судовая сістэма, як самастойная галіна ўлады, адсутнічае інстытут незалежнай адвакатуры. Гэта робіць фактычна немагчымай абарону парушаных правоў грамадзянаў у судовым парадку, пазбаўляе грамадзянаў краіны на незалежнае і справядлівае судовае разбіральніцтва, абмяжоўвае доступ да правасуддзя...

... **Мы** – прадстаўнікі праваабарончага руху Беларусі прыйшлі да высновы, што:

— сітуацыя з выкананнем правоў чалавека ў Беларусі няўхільна пагаршаецца;

— прадстаўнікі афіцыйных уладаў груба парушаюць Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь, міжнародныя пакты і канвенцыі, ратыфікаваных Рэспублікай Беларусь, рэзалюцыі і рэкамендацыі міжнародных арганізацый, у тым ліку ААН, АБСЕ, ПАСЕ і інш;

— у Рэспубліцы Беларусь мае месца дыскрымінацыя па нацыянальнай, рэлігійнай і ***моўнай*** прыкмеце ў разнастайных яе формах і праявах...

**Мы** – удзельнікі Форуму беларускіх праваабаронцаў патрабуем ад афіцыйных уладаў Рэспублікі Беларусь:

-- няўхільна прытрымлівацца міжнародных абавязацельстваў у галіне правоў чалавека, узятымі на сябе Рэспублікай Беларусь, а таксама прыняць меры да рэальнага забяспячэння гарантаваных Канстытуцыяй правоў і свабодаў грамадзянаў у Рэспубліцы Беларусь і рэалізацыі выпрацаваных удзельнікамі Форума рэкамендацый;

— правесці поўнае, аб'ектыўнае і галоснае расследванне знікненняў Юрыя Захаранкі, Віктара Ганчара, Анатоля Красоўскага, Дзмітрыя Завадскага, і дзеянняў (бездзеянняў) у сувязі з гэтымі расследваннямі вышэйшых службовых асобаў Рэспублікі Беларусь. Таксама лічым абавязковым на час расследвання прыпыніць паўнамоцтвы магчыма датычных да дадзеных злачынстваў службовых асобаў.

— распачаць распрацоўку законаў ў галіне правоў чалавека, якія забяспечваюць неад'емныя правы грамадзянаў і адпавядаючых патрабаванням міжнародных нормаў і Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь;

— унесці змены у дзейнае выбарчае заканадаўства, скіраваныя на забеспячэнне прынцыпаў адкрытасці, празрыстасці і дэмакратычнасці выбарчага працэсу, якія гарантуюць рэальную рэалізацыю выбарчых правоў грамадзян краіны, таксама забяспечваюць грамадскі кантроль за выбарамі;

— правесці галосны і адкрыты дыялог паміж грамадскімі арганізацыямі, праваабарончымі групамі і прадстаўнікамі дзяржаўных органаў па пытаннях зменаў заканадаўства і практычнай рэалізацыі патрабаванняў, выкладзеных у гэтай рэзалюцыі...

Упэўненыя, што практычная рэалізацыя патрабаванняў, выкладзеных у дадзенай рэзалюцыі, дазволіць адрадзіць грамадзянскую супольнасць і стварыць сістэму дзяржаўнай улады, заснаваную на няўхільным выкананні правоў грамадзянаў у Беларусі, а таксама дазволіць пераадолець самаізаляцыю і пабудаваць дэмакратычную, прававую дзяржаву.

# 70 гадоў
## доктару філалагічных навук
# Арсеню Лісу



Фалькларыст, краязнаўца, літаратуразнаўца і кінасцэнарыст, доктар філалагічных навук Арсень Ліс нарадзіўся 4 ліпеня 1934 года ў сялянскай сям'і ў вёсцы Вётхава Смаргонскага раёна. Здзіўляе энцыклапедычнасць ведаў, уражвае плённасць працы і выключная абаяльнасць асобы вучонага.

Матчыны песні, ўражлівая паэтычная душа ящчэ ў Смаргонскай дзесяцігодцы не толькі запалянілі душу, але і самога падштурхнулі да паэзіі, што ўсюды кідаецца ў вочы у яго шматлікіх навуковых працах. Пасля заканчэння БДУ ў 1956 годзе настаўнічаў у Шаркаўшчыне, працаваў рэдактарам Дзяржаўнага выдавецтва Беларусі, а з 1962 года працуе ў Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору НАН Беларусі, дзе абараніў спачатку кандыдацкую дысертацыю аб народна-рэвалюцыйнай паэзіі Заходняй Беларусі, а потым і доктарскую ў 1996 годзе "Каляндарна-абрадавая творчасць беларусаў. Сістэма жанраў. Эстэтычны аспект", выдадзеную манаграфіяй у 1998 годзе.

Незвычайная чуйнасць даследчыка да глыбыні і мудрасці паэзіі ў фальклоры дала вучонаму магчымасць адкрыць хараство, старажытнасць і жанравую самабытнасць першаснай мастацкай формы ў сістэме жанраў творчасці беларусаў – народную песню, на што звярнуў увагу у свой час. Арсень Ліс зрабіў выдатны ўклад ў гісторыю беларускай фалькларыстыкі манаграфіямі "Купальскія песні" (1974), "Валачобныя песні" (1989) і "Жніўныя песні" (1993).

Фалькларысту ў складзе аўтарскага калектыву ІМЭФ было наканавана лёсам стаць адным з асноўных стваральнікаў самай фундаментальнай працы ў беларускім народазнаўстве – цяпер ужо 46-томнага зводу "Беларуская народная творчасць", за якую аўтарскаму калектыву была прысуджана Дзяржпрэмія Беларусі (1986). Ён аўтар уступных артыкулаў, каментарыяў і адзін з укладальнікаў тамоў "Жніўныя песні" (1974), "Восеньскія і талочныя песні" (1981), "Купальскія і пятроўскія песні" (1985), "Паэзія беларуская земляробчага каляндара" (1992).

Арсень Ліс – адзін з аўтараў падручніка для студэнтаў ВНУ "Беларуская вусна-паэтычная творчасць" (1979, 1988, 2000), першай кнігі "Каляндарна-абрадавая творчасць" з шасцітомнай серыі "Беларускі фальклор. Жанры. Віды. Паэтыка" (2001), укладальнік зборнікаў "Беларускі фальклор. Жанры. Віды. Паэтыка" (2001), укладальнік зборнікаў "Беларускія народныя песні" (1970), "Браніслаў Тарашкевіч. Выбранае" (1991), адзін з укладальнікаў хрэстаматыі "Беларускі фальклор" (выд.4-е, 1996), кнігі ўспамінаў пра Максіма Гарэцкага (1984), аўтар манаграфіі "Песня ў спадчыну" (1989). Ён напісаў кнігі пра Браніслава Тарашкевіча (1966, 1994), Міколу Шчакаціхіна (1968), мастакоў Пятра Сергіевіча (1970), Горыда (1981), Язэпа Драздовіча (1984).

З 1984 года вучоны выступае як сааўтар сцэнарыяў дакументальных фільмаў "Песня на ўсё жыццё (пра Рыгора Шырму, 1984), "Прысады жыцця" (пра Максіма Гарэцкага, 1985), "Зямля Тарашкевіча" (1991), "Аркадзь Смоліч", "Дзядзька Уласаў" (абодва – 1992), "Адвечныя званы" (пра Мітрафана Доўнар-Запольскага, 1993).

Пладавіты вучоны, сапраўдны падзвіжнік, чуйны даследчык і сціплы чалавек Арсень Ліс залатымі літарамі ўпісаў сваё імя ў гісторыю беларускага народа.

***Васіль Ліцьвінка.***

Ванда Грамбецкая

# Батанік Вялікага Княства

## Станіслаў Баніфацы Юндзіл (Дунін-Юндзіл, 1761-1847)

Наступнае падарожжа з мэтай ратавання здароўя – у 1827 г. – вяло ў Варшаву. Там – акрамя лячэння карлсбадскімі водамі – ён наведаў на запрашэнне гаспадара Тадэвуша Астроўскага яго дом у Геленове і пазнаёміўся з гербарыем швейцарскіх раслін вядомага батаніка і стваральніка натуральнай сістэмы Дэкандола. Апошняе падарожжа, якое адбылося ў 1835 годзе, ужо не спрыяла наведванню новых навуковых цэнтраў. Стан задроўя хворага прафесара не дазваляў гэтага. Аднак сам побыт быў прыемны дзякуючы таварыству старых і новых сяброў, якія ставіліся да Юндзіла з павагаю і прыязна. Паміж іншым ён спаткаўся там з Казімірам Брадзінскім. У сувязі з вайною дарога вяла праз Прусію. Юндзіл занатоўвае цікавыяназіранні адносна добрай гаспадаркі ў гэтым краі, чысціні гарадоў і вёсак, якія праязджаў, а таксама веданне польскай мовы мясцовым людам. Занатоўвае і добрае веданне чыстай, не знявечанай нямецкім уплывам, польскай мовы на тэрыторыі так званай Заходняй Прусіі (Велькапольскі). Цікава адзначыць, што Юндзіл адмовіўся наведаць замак у Мальборку, пра які, як сядзібу Крыжакоў, піша з агідаю.

Пасля заканчэння актыўнай працы ва універсітэце прафесар прысвяціў свой час замацаванню гісторыі улюбёнай установы. Яе зачыненне ў 1832 г. пасля лістападаўскага паўстання было для яго крыніцай горычы. Таму ён імкнуўся засведчыць праўду і апісаць, паводле ўласнага погляду, гісторыю гэтага заняпаду і яго прычыны. Паўсталі тры рукапісы, выдадзеныя пасля смерці прафесара. Адзін з іх – ён апісвае выпадкі, што прывялі да зачынення універсітэта – быў надрукаваны ў зборніку "Літоўскія абразкі. З успаміну вандроўніка Сабары" (Познань, 1874); другі апісвае ўласныя меркаванні Юндзіла пра людзей, якія працавалі ў навучальнай установе на працягу доўгіх гадоў, асабліва пра іншаземцаў ("Збор дробных звестак пра асобы і навуковыя арганізацыі ў былым і сучасным стане (1829) Віленскага універсітэта ("Віленскі калектыўны часопіс", Вільня, 1859), трэці, урэшце, выданы яго біёграфам Янам Юндзілам, падрабязна з дакладнасцю хронікі, аднатоўвае падзеі Батанічнага саду ("Варшаўская бібліятэка", 1850, т.1). акрамя таго, прафесар піша асабісты дзённік – тэкст, які з'яўляецца найлепшай крыніцай для азнаямлення з жыццём і думкамі Станіслава Баніфацыя Юндзіла.

Віленскі прафесар быў спрэчнаю асобаю. Вядомы яго сутыкненні і спрэчкі з многімі прафесарамі Віленскага універсітэта. Яго часта лічылі заслівым нацыяналістам, які змагаецца з усім чужым. Аднак гэта было не так. Прычыны спрэчак былі складаныя. Свае погляды Юндзіл выказваў на пасяджэннях востра, безкампрамісна. Яны адлюстроўвалі яго погляды на прызначэнне прафесара і арганізацыю універсітэцкага жыцця. Яшчэ з ранняй маладосці прызвычаены да ордэнскай дысцыпліны, ён дрэнна ўспрымаў новыя ўведзеныя ва універсітэце звычаі. У гэтым пытанні яго праціўнікі мелі рацыю. Нельга было бясконца арганізоўваць школьнае і універсітэцкае жыццё па ордэнскім узоры. Свецкі лад жыцця ўвайшоў у паезуіцкі Віленскі універсітэт разам з іншаземцамі, і гэта было пазітыўным фактам. На гэтым фоне адбылася асноўная спрэчка з прафесарам Франкам(16), заслужаным стваральнікам віленскай школы медыцыны. Юндзіл, што высока цаніў яго ў прафесійнай галіне, не мог пагадзіцца са стылем жыцця венскага медыка. Франк - адзін з заснавальнікаў і заслужаны дзеяч Таварыства Дабрачыннасці – вёў актыўнае таварыскае жыццё і, напрыклад, арганізоўваў дабрачынныя канцэрты, на якіх выступала яго жонка. Цяжка сабе ўявіць, каб Юндзіл пахваліў такія звычаі. Ён заставаўся пры сваіх кансерватыўных поглядах. Яго абуралі і вельмі шыкоўныя матэрыяльныя ўмовы (зарплата, жыллё), якія прапаноўваліся іншаземцам. Існавала аднак і іншая плоскасць спрэчкі. Ст.Б.Юндзіл быў чалавекам так званым "тутэйшым". Выхаваны ў польскай культуры, ён рэалізоўваў – праз усё жыццё – выхаваўчыя праграмы Камісіі Нацыянальнай Адукацыі і быў верны ідэалам Асветніцтва. Таму ён не мог пагадзіцца з даволі-такі абыякавымі адносінамі замежных прафесараў да праблем краіны. Ён хацеў не толькі прыдбаць сабе месца навуковай працы, але і сваёй працай цывілізацыйна ўзвысіць сваю краіну. Ён не разумеў касмапалітычнага падыходу Форстэра, які ў сувязі з цікавай прапановай навуковага падарожжа сарваў умову і пакінуў кафедру прыродазнаўства, пазбаўленую на некалькі гадоў кіраўніцтва. Гэтак жа востра ацаніў прафесар учынак Людвіка Баянуса(17), які падчас напалеонскіх войнаў выехаў у Пецярбург, каб там спакойна працаваць, і пакінуў універсітэт і сваю кафедру на літасць лёсу і войскаў, што праходзілі праз горад. У гэтых адносінах рацыя была на баку Юндзіла. Навучальная ўстанова, якая не хоча мець такіх праблем, павінна выхоўваць уласныя кадры. І Юндзіл гэта лічыў нармальным. Яго вучні выканалі вялікую працу – даследванне літоўскай прыроды, а ён іх да гэтага падрыхтаваў.

Станіслаў Баніфацы Юндзіл меў таксама і шмат сяброў. Акрамя прыгаданых ужо батанікаў і уладальнікаў садоў, паважаў і сябраваў з прафесарам Янам Снядэцкі(18). З Андрэем Снядэцкім(19) яны распачыналі многа сумесных ініцыятыў на аддзяленні.

Увесь навуковы шлях віленскага прафесара характарызавала вялікая інтэлектуальная адвага. Ён не сышоў са свайго асветніцкага шляху, але і не ўхіляўся ад новых задач, якія нясло развіццё прыродазнаўства. Трэба было шмат адвагі, каб малады настаўнік у Шчучыне самастойна вырашыў працягваць працу першага даследчыка літоўскіх зямель – Жылібера. І таксама трэба было яе шмат, каб праз 25 год шпаркіх перамен у еўрапейскай навуцы сачыць за яе прагрэсам і падрыхтаваць свайго наступоўцу да зусім новых задач.

Апошнія гады жыцця Ст.Б.Юндзіла не былі радасныя. Цяжка хворы, пазбаўлены зроку, ён перажыў заняпад свайго ўлюбёнага універсітэта (1832) і зачыненне медыка-хірургічнай акадэміі, апошняга анклаву вывучэння ў Вільні прыродазнаўчых навук (1844). Убачыў знішчэнне Батанічнага сада, які развіваўся яшчэ ў трыццатых гадах пад кіраўніцтвам Горскага(20), а пасля таго, як зачынілі медыка-хірургічную акадэмію, быў перароблены ў шпацырны парк. Перажыў адыход людзей, якія зачыніліся ў хатнім зацішшы, або знайшлі працу ў іншых установах. Вір навуковага жыцця ў Вільні спыніўся на шмат гадоў. Таму не дзіўна, што напісаны прафесарам пад канец жыцця "Дзённік" прасякнуты горыччу.

Станіслаў Баніфацы Юндзіл памёр 12 кастрычніка 1847 г. у Вільні, дзе быў пахаваны на Бернардынскіх могілках. Яго сваяк – Юзаф Юндзіл – паставіў там помнік, на якім ёсць надпіс: ***"Прыродазнаўства ў краіне пашыральнік, Батанічнага саду ў Вільні стваральнік"***. Гэты надмагільны помнік, адноўлены ў сувязі з гадавінай універсітэта, знаходзіцца ў добрым стане.

Прыродазнаўцы заўсёды цанілі спадчыну і пазіцыю Ст.Б.Юндзіла ў Віленскім універсітэце. Вільбальд Бэсер(21), выкладчык батанікі і заалогіі ў Крамянецкім ліцэі, славуты фларыст і адкрывальнік многіх новых відаў, у 1814 г. прысвяціў Юндзілу прыгожы від валынскай ружы. ***Rosa jundzilli Bess***, што квітнее ў паўднёвай часцы нашых абшараў, заўсёды будзе нагадваць гэтага даследчыка і выкладчыка. Іншы польскі батанік, Гуга Запаловіч(22), у 1911 г. надаў адкрытаму ім віду смалёўкі імя ***Silene jundzilli Zap***. Пры апісанні віду ён пісаў, што прысвячае яго памяці Станіслава Юндзіла, прафесара Віленскага універсітэта. Гэты від упрыгожвае лугі і ўзлескі Усходніх Карпат, Апянінаў і Татр.

### Даты жыцця Станіслава Баніфацыя Юндзіла

**1761** – нарадзіўся ў Ясеньцах у Лідскім павеце, сын Бенядыкта Дуніна-Юндзіла і Ружы з Даўгялаў;

**1774** – пачатак вучобы ў школе Піяраў у Лідзе;

**1777** – пачатак паслушніцтва;

**1779** – прыняцце пострыгу; пачатак настаўніцкай працы – Расены;

**1781-1783** – філасофскі факультэт у піярскай калегіі Вільні; курс хіміі ў Ю.Сарторыса;

**1783** – тэалагічны факультэт;

**1784** – Юндзіл атрымлівае прысвячэнне ў духоўны сан;

**1785** – пачатак працы ў школе ў Шчучыне, стварэнне навучальнага батанічнага сада; пачатак фларыстычных даследванняў;

**1787** – курс прыродазнаўства ў Г. Форстара(23) ў Віленскім універсітэце;

**1790** – Ст.Б.Юндзіл пачынае лекцыі прыродазнаўства ў Піярскай камісіі ў Вільні (па-польску, а не на лацінскай мове);

**1791** – выданне **"Апісанне дзікарослых раслін у правінцыі ВКЛ паводле сістэмы Лінея"**;

**1792** – Ст.Б.Юндзіл атрымлівае ад караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага медаль **Merentibus**;

**1792-1797** – замежнае падарожжа;

**1798** – доктарская дысертацыя па філасофіі; Юндзіл пачынае самастойныя лекцыі па батаніцы;

**1799** – выданне **"Ужытковай батанікі"**; Ст.Б.Юндзіл пераймае Батанічны сад у Ф.Спіцнагеля;

**1801** – Ст.Б.Юндзіл становіцца сябрам Варшаўскага таварыства сяброў навук;

**1802** – Ст.Б.Юндзілу прысвойваюць званне прафесара батанікі і заалогіі ў Віленскім універсітэце;

**1804** – выданне **"Пачаткаў батанікі"**;

**1805** – Ст.Б.Юндзіл становіцца сябрам Маскоўскага таварыства аматараў прыроды;

**1807** – Ст.Б.Юндзіла выбіраюць прэфектам кандыдатаў на настаўніцкую пасаду; выдаецца **"Кароткі нарыс заалогіі"**;

**1811** – выдаецца **"Апісанне літоўскіх раслін"**; Юндзіл становіцца сябрам Гаспадарчага Таварыства ў Варшаве;

**1824** – выхад на пенсію; Ст.Б.Юндзіл перадае легат на навучанне двух вучняў з прозвішчам Юндзіл у піярскай школе;

**1825** – перадача Батанічнага саду Ю.Юндзілу;



*Магіла С. Б. Юндзіла на Бернардынскіх могілках у Вільні.*

**1826** – падарожжа ў Карлсбад – наведванне Батанічнага саду і Памалагічнага ў Варшаве і Батанічнага саду ў Уроцлаве;

**1827** – падарожжа ў Варшаву – знаёмства з Міхаілам Шубертам (дырэктарам варшаўскага Батанічнага саду);

**1835** – падарожжа ў Карлсбад;

**1847** – 12 кастрычніка Ст.Б.Юндзіл памірае ў Вільні. Пахаваны на Бернардынскіх могілках.

### *Каментары Аляксандра Кольшкі.*

*__16. Франк Юзаф__ (1771-1842) – урач, з 1804 г. прафесар паталогіі, ў 1806-24 прафесар тэрапіі і кіраўнік клінікі Віленскага універсітэта, адзін з заснавальнікаў Віленскага лекарскага таварыства (1805), з яго удзелам паўстаў інстытут прывіўкі воспы ў Вільні (1808), заслужаны дыдактык.*

*__17. Баянус Людвік__ (1776-1827) – урач і біёлаг. Прафесар Віленскага ўніверсітэта. Даў пачатак развіццю сучаснай ветэрынарнай навукі ў Польшчы, заснавальнік у 1823 г. першай ветэрынарнай школы пры Віленскім універсітэце.*

*__18. Снядэцкі Ян__ (1756-1830) – брат Анджэя, матэматык, астраном і філосаф, прафесар Кракаўскай акадэміі і Віленскага ўніверсітэта, ў 1807-15 рэктар. Арганізатар навуковага жыцця ў Польшчы, папулярызатар навукі, апрацаваў польскую матэматычную тэрміналогію. Працаваў у Камісіі народнай адукацыі. Адкрыў малую планету Паладу (1802).*

*__19. Снядэцкі Андрэй__ (1768-1838) – брат яна, хімік, урач, біёлаг і філосаф, прафесар хіміі і медыцыны Галоўнай Школы Літоўскай, Віленскага універсітэта і Медыка-хірургічнай акадэміі ў Вільні. Стварыў польскую хімічную тэрміналогію, аўтар першага польскага падручніка па хіміі (Poczatki chemii,1800), увёў у навуковы абарот паняцце абмену рэчываў.*

*__20. Горскі Станіслаў__ (1802-1864) – батанік-фларыст, медык, педагог. Скончыў Віленскі універсітэт (1825). У 1829-32 загадчык батанічнага саду Віленскага універсітэта, у 1832-42 ад'юнкт, прафесар Віленскай медычна-хірургічнай акадэміі. У 1842-47 жыў у Паставах, займаўся батанікай і энтамалогіяй. Адзін з першых даследчыкаў флоры Белавежскай пушчы. Імем Горскага названы некаторыя віды раслін і нясякомых.*

*__21. Бэсер Вілібальд__ (1784-1842) – польскі батанік-фларыст і ўрач, заслужаны для Крамянецкага ліцэю і яго батанічнага саду, пасля ліквідацыі ліцэя працаваў прафесарам батанікі Кіеўскага універсітэта, даследваў раслінны свет Валыні, Падолля і Украіны. У 1809 г. выдаў першы сінтэз флоры Галіцыі ("Primitiae florae Galiciae").*

*__22. Запаловіч Гуга__ (1852-1817), батанік і падарожнік, з 1894 г. член Акадэміі Ведаў (суч. Акадэмія Навук), падчас кругасветнага навуковагападарожжа ў 1880-1890 гг. даследаваў геалогію і флору Паўднёвай Амерыкі і Японіі, напісаў "Krytyczny przeglad roslinnosci Galicji " т. 1-2 1906-1911.*

*__23. Форстар Ежы Адам__ (1754-1794), прыродазнаўца і падарожнік, прафесар універсітэта ў Касэлі і Вільні, падарожнічаў з Джэймсам Кукам вакол свету і Аляксандрам Гумбальдтам па Еўропе.*



№ 5 (640) 4 ЛЮТАГА 2004 г. Наша слова

# Сітуацыя вакол Лідскага замка

22 снежня 2003 г. № _

Сп. Кабякову А. У.
Міністру эканомікі
Рэспублікі Беларусь
220050, г. Мінск, вул. Берсана, 14

**Паважаны Андрэй Уладзіміравіч!**

Мы ўдзячны Вам за грунтоўны адказ на наш зварот і клопат аб захаванні нашай гістарычна-культурнай спадчыны.

У адрозненне ад Нясвіжскага замка і Нацыянальнай бібліятэкі рэстаўрацыя Лідскага замка пачалася 25 гадоў назад у 1978 годзе і ўжо зроблена на 70-80 %. Адноўлена замкавая вежа, большасць сцен і, нават, падведзеныя камунікацыі, якія каштавалі вялікія грошы. На жаль, гэта ўсё закінута і разбураецца. Хіба можна і надалей так абыходзіцца з дзяржаўнымі сродкамі, якія складаюцца з нашых падаткаў?

У сувязі з гэтым мы прапануем у 2004 годзе выдзеліць сродкі на прыстасаванне пад музей ужо адноўленай замкавай вежы (дарэчы, так было ў Мірскім замку), зрабіць уваход туды платным, а частку зароблених грошай выдаткаваць на аднаўленне другой вежы і замкавага двара.

Мы таксама спадзяёмся, што пад Вашым уплывам Гродзенскі аблвыканкам таксама знойдзе ў сваім бюджэце адпаведную суму.

Было б вельмі добра, каб Вашае міністэрства адкрыла спецыяльны рахунак, на які кожны ахвотны змог бы перавесці свае ахвяраванні на завяршэнне рэстаўрацыі Лідскага замка, як гэта мае месца з Нацыянальнай бібліятэкай Беларусі.

Таксама прапануем актыўна выкарыстоўваць у сваёй дзейнасці дзяржаўную беларускую мову і аформіць на ёй у 2004 годзе свой афіцыйны канверт, па прыкладу міністэрстваў абароны, культуры, адукацыі і г. д.

Прыміце нашыя найлепшыя пажаданні і віншаванні ў сувязі з надыходам Калядаў і Новага году.

З павагай
**Старшыня ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны"**
**А.А.Трусаў**

**Дадаткі:**
1. Звароты грамадзян Беларусі за заканчэнне рэстаўрацыі Лідскага замка (5 лістоў).
2. Афіцыйны канверт Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі.



*Трэшчына па ўсёй вышыні заходняй сцяны замка*

**МІНІСТЭРСТВА ЭКАНОМІКІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ**
**Мінэканомікі**
вул. Берсана, 14, 220050, г. Мінск
тэл 222-60-48, факс 220-37-77



**МИНИСТЕРСТВО ЭКОНОМИКИ РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ**
**Минэкономики**
ул. Берсона, 14, 220050, г. Минск
тел. 222-60-48, факс 220-37-77

___ № ___
На № ___ от ___

**ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны"**

**Аб рэстаўрацыі замка ў г. Лідзе.**

Міністэрства эканомікі Рэспублікі Беларусь разгледзела ваш зварот аб рэстаўрацыі Лідскага замка і паведамляе:

Замак у г. Лідзе з'яўляецца аб'ектам камунальнай уласнасці. На працягу 1991-1999 гг. за кошт сродкаў рэспубліканскага бюджэту праводзіліся рэстаўрацыйна-аднаўленчыя работы на гэтым аб'екце, прыкладна на 70% выкананы работы па паўночнай усходняй, паўднёвай сценах, завершаны работы рэстаўрацыйнага фарактару па паўночна-усходняй вежы. Згодна з планавым заданнем комплекс замка павінен быць прыстасаваны пад грамадска-культурны цэнтр.

У 2002 годзе за кошт сродкаў рэспубліканскага бюджэту распрацавана праектна-каштарысная дакументацыя на першую чаргу – правядзенне супрацьаварыйных і кансервацыйных работ. Кошт работ па зводнаму каштарыснаму разліку складае 197,6 тыс. рублёў у цэнах 1991 года. Далейшае выкананне праектных работ па дабраўпарадкаванні ўнутраннага двара, прыстасаванне паўночна-ўсходняй вежы з распрацоўкай інтэр'ераў, рэстараўцыйна-аднаўленчых работ і прыстасаванне па заходняй сцяне і паўднёва-заходняй вежы прыпынена ў сувязі з адсутнасцю крыніц фінансавання.

У сувязі з тым, што аб'ект адносіцца да камунальнай уласнасці, выдзяленне сродкаў для арганізацыі ў адрэстаўраванай часцы замка музея з'яўляецца прэрагатывай Гарадзенскага аблвыканкаму і Лідскага гарвыканкаму ў залежнасці ад таго, які музей мяркуецца адчыніць. Гэта ў поўнай меры адносіцца і да ўзяцця платы за ўваход і адлічэння часткі сродкаў на рэстаўрацыю. Разам з тым паведамляем, што пытанні арганізацыі музейных экспазіцый адносяцца да кампетэнцыі Міністэрства культуры, а не Міністэрства эканомікі.

Акрамя таго, у адпаведнасці с Палажэннем аб Міністэрстве эканомікі, зацверджаным пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 31.10.2001 г. № 1575, адкрыццё спецыяльных рахункаў не ўваходзіць у кампетэнцыю нашага міністэрства.

У сувязі з вышэй выкладзеным лічым мэтазгодным паднятыя ў звароце грамадскага аб'яднання пытанні вырашаць сумесна з Гарадзенскім аблвыканкамам, Лідскім гарвыканкамам і Міністэрствам культуры.

**Намеснік міністра Л. В. Дзямідаў.**

*(Пераклад з рускай мовы.)*

*Пасля атрымання адказаў ад Міністэрства культуры і Міністэрства эканомікі старшыня ТБМ, кандыдат гістарычных навук Алег Трусаў, які сам праводзіў раскопкі ў Лідскім замку, паўторна звярнуўся ў Міністэрства эканомікі з канкрэтызаванымі прапановамі. Аднак Міністэрства эканомікі цвёрда стаіць на пазіцыях, што Лідскі замак з'яўляецца камунальнай уласнасцю, і займацца яго далейшым лёсам павінен Гарадзенскі аблвыканкам і Лідскі гарвыканкам.*

*Нажаль гэта пакуль толькі пазіцыя. Яна не трансфармаваная ні ў Указ прэзідэнта ні ў Пастанову ўраду. І таму з яе абсалютна не прагалядваецца, калі і якія грошы будуць выдзелены аблвыканкамам і гарвыканкамам на рэстаўрацыю замка. А замак далей чакаць проста не можа. Замак прадаўжае разбурацца. Зусім нядаўна (летась яшчэ не было) з'явілася трэшчына ў заходняй сцяне практычна да самага фундаменту. З кожнай адлігай і кожным марозам яна пашыраецца.*

*Безумоўна, улады могуць і далей чакаць свайго лідскага "краснаполля". Грамадскасць чакаць не хоча. Пра новыя захады лідскай, і не толькі, грамадскасці ў пытанні рэстаўрацыі замка - у наступных нумарах.*

***Станіслаў Суднік***

# Антону Эдварду Адынцу - 200



Ён пражыў доўгае, цікавае і дзейснае жыццё... На Ашмяншчыне, паміж знакамітымі мястэчкамі Барунамі і Гальшанамі, месціцца вёска Гейстуны. Тут, 200 гадоў назад, у сціплай шляхецкай сям'і нарадзіўся Антон Эдвард Адынец. Паколькі вядомая Барунская базыльянская школа была непадалёку, то здольны хлапчук спярша вучыўся ў ёй, стаўшы адным з лепшых вучняў. Потым выправіўся на вучобу на юрыдычны факультэт Віленскага універсітэта, якраз у той час, калі ў Вільні дзейнічалі студэнцкія дэмакратычныя таварыствы філаматаў і філарэтаў. У 1823 г., як і іншых удзельнікаў таварystваў, Антона Адынца арыштоўваюць. Праўда, прысуд быў мякчэйшым, чым для кіраўнікоў таварыстваў.

А калі ў 1829 г. яго старэйшы сябар Адам Міцкевіч выехаў за мяжу, Адынец стаў яму надзейным спадарожнікам. Паўтары гады яны дзялілі кавалак хлеба і дах над галавой. Менавіта Адынцу давяраў Міцкевіч тады свае думкі, развагі, перажыванні. Разам яны падарожнічалі па Альпах, па старажытных гарадах Германіі, Італіі, Швейцарыі, Францыі, шукаючы прытулку ў няпэўным эмігранцкім жыцці.

У Фларэнцыі былі цёпла прыняты сваім земляком Міхалам Клеафасам Агінскім, а ў Веймары – вялікім нямецкім паэтам Іаганам Гётэ. Разам яны марылі аб сваёй Радзіме: "Нам абодвум снілася Літва. Адам сніў, што купаўся ў Нёмане"

Антону Адынцу пашанцуе: ён вернецца. Доўгі час будзе працаваць рэдактарам папулярнай газеты "Кур'ер віленскі". Стане адным з першых біёграфаў Адама Міцкевіча. Яго "Лісты з падарожжа" выклікалі і выклікаюць нязменную цікавасць, а яго "Песня філарэтаў" – аптымізм.

***Людміла Трэпет.***

# ЗАХАВАЛЬНІК БЕЛАРУСКАГА МУЗЕЯ Ў ВІЛЬНІ

Жыццёвы шлях Янкі Шутовіча быў нялёгкім, аднак на працягу ўсяго свайго жыцця ён шчыра і аддана служыў Беларусі, свайму народу.

Нарадзіўся Іван Восіпавіч 24 студзеня 1904 г. у в. Шутовічы (цяпер Смаргонскі р-н Гарадзенскай вобл.) у шматдзетнай сям'і. сярэднюю адукацыю атрымаў у Віленскай беларускай гімназіі, дзе выкладалі Б. Тарашкевіч, А. Станкевіч, А. Луцкевіч, М. Гарэцкі, А. Смоліч і інш. Менавіта яны сфармавалі яго светапогляд, прывілі любоў да роднай мовы, цыкавасць да гістарычнай спадчыны радзімы. У 1935 г. з дыпломам магістра ён скончыў юрыдычны факультэт Віленскага універсітэта. З 1935 да 1939 г. быў выдаўцом і рэдактарам часопіса "Калосся", на старонках якога публікаваліся творы М. Танка, В. Таўлая, М. Машары і іншых культурных дзеячаў Заходняй Беларусі. Супрацоўніцтва з многімі з іх перарасло ў блізкае сяброўства. Так, на працягу ўсяго жыцця ён падтрымліваў цесныя сувязі з народным пісьменнікам М. Танкам. Сам Шутовіч апублікаваў у "Калоссі" артыкулы пра А. Гурыновіча, М. Машару, Я. Драздовіча. З гэтага часу ён пачаў сур'ёзна цікавіцца жыццём і творчасцю Гурыновіча, адшукаў і апублікаваў яго невядомыя вершы, доўгі час вёў перапіску з пляменніцай пісьменніка праф. Янінай Гурыновіч. Адначасова Шутовіч прымаў актыўны ўдзел у беларускім грамадска-палітычным руху Заходняй Беларусі, змагаўся з польскімі ўладамі за ўвядзенне беларускіх школ. У 1939 г. ён быў арыштаваны і зняволены ў Бяроза-Картузскім канцлагеры, адкуль вызвалены савецкай арміяй.

У 1940 г. ажаніўся з літоўскай паэтэсай Онай Міцютэ, якая на ўсё жыццё стала яму вернай спадарожніцай. Разам яны шмат зрабілі для ўмацавання беларуска-літоўскіх культурных сувязяў.

У 1940 г. пачалася карпатлівая праца Івана Восіпавіча ў віленскім Беларускім музеі. Захоп Вільні гітлераўцамі ўскладніў працу музея. Менавіта на плечы Шутовіча лягла адказнасць за зберажэнне экспанатаў музея. Каб уратаваць музей ад рабавання, самыя каштоўныя рэліквіі ён, пры дапамозе ксяндза А. Станкевіча, схаваў у сутарэннях касцёла св. Міхала, у выніку чаго яны былі выратаваны.

Радасць вызвалення ад фашыстаў была нядоўгай. 20 лістапада 1944 г. Шутовіч быў арыштаваны і рашэннем Асобай нарады пры НКУС СССР асуджаны на 10 гадоў зняволення. Толькі ў 1956 г. ён вярнуўся ў Вільню, дзе яго чакалі новыя выпрабаванні. З цяжкасцю ўдалося ўладкавацца на працу. Нялёгка было дабіцца рэабілітацыі. Але будучы творчай асобай, Шутовіч ізноў уключыўся ў беларускае культурнае жыццё. У бібліятэцы АН Літвы ён адшукаў рукапіс славутага рамана М. Гарэцкага "Віленскія камунары". Падрыхтаваў артыкулы пра М. Забэйду-Суміцкага, А. Гурыновіча, П. Сергіевіча. Пісаў пра Беларускі музей. Большасць яго прац так і засталася ў рукапісах.

***Яніна Кісялёва.***





# Вечарына да ўгодкаў Арсеня Ліса

## ў Таварыстве беларускай культуры ў Вільні

У Таварыстве Беларускай Культуры ў Вільні прайшла адлікова-выбарная канферэнцыя. З дакладам аб дзейнасці таварыства выступіў старшыня Хв. Нюнька, ён, у прыватнасці, адзначыў, што за апошнія два гады актывізавалася выдавецкая дзейнасць, выпушчаны кнігі: "Трагічныя ніткі лёсу беларускага патрыёта", "ТБК", успаміны В. Р. Астроўскага. Старшынём зноў абраны Хв. Нюнька, у раду ўвайшлі: А. Старавойтаў, В. Саковіч, М. Іголка, Хв. Нюнька, С. Карабач, Л. Мілаш, А. Трусаў, П. Саўчанка, абмеркавалі план дальнейшай працы.

Кожны месяц у Таварыстве ладзіцца імпрэза. Гэтым разам адзначылі 70 годдзе вядомага вучонага, даследчыка, пісьменніка Арсеня Ліса. Ён, будучы маладым аспірантам, першы адкрыў Зоську Верас, першым прыехаў на сустрэчу з беларусамі Вільні ў 1989 годзе, як вучоны этнограф. І на працы, і ў грамадскай дзейнасці я карыстаюся кнігамі Арсеня Сяргеевіча "Браніслаў Тарашкевіч", "Пётра Сергіевіч", "Вечны вандроўкік", калі рыхтавалася да мерапрыемства перачытала кнігу "Цяжкая дарога свабоды", у якую ўвайшлі дарагія для нас літаратурныя партрэты А. Смоліча, Р. Шырмы, Ул. Караткевіча. Пра літаратурную спадчыну Арсеня Ліса расказала Л. Мілаш, дзейнічала выстава кніг з бібліятэкі ТБК і прыватных Вядома ў многіх беларусаў Вільні ёсць кнігі Арсеня Ліса і пра Браніслава Тарашкевіча, і пра Пётру Сергіевіча, і пра Язэпа Драздовіча.

Некалькі гадоў назад мы ездзілі на радзіму Бр. Тарашкевіча ў Мацюлішкі, Лаварышкі, наведалі і яго пляменніцу цётку Марыю, яна, як каштоўную сямейную рэліквію, паказвала кнігу пра дзядзьку і з гонарам расказвала пра аўтара Арсеня Ліса, які ў яе бываў. А. Ліс шмат зрабіў, каб беларускія дзеячы, лёс якіх звязаны з Вільняй, былі вядомыя шырокаму колу чытачоў, каму цікавыя старонкі нашай гісторыі. І 2000 годзе пісьменнік быў на святкаванні дзесяцігоддзя Асацыяцыі беларусістаў Літвы, у 2002 годзе – у ТБК. Таму і ў Таварыстве беларускай культуры адзначылі юбілей пеісьменніка, яшчэ раз дакрануліся да творчай спадчыны, "пагартаталі старонкі жыцця". У зале сабраліся тыя, хто ведае яго па творах і грамадскай дзейнасці. Кнігі яго даўно сталі бібліяграфічнай рэдкасцю, яны не залежваюцца на паліцах кнігарняў, і гэта яскравае сведчанне таго, што яны патрэбныя чытачам. Неяк паэт сказаў: "Калі і вучуся я ў каго, то толькі ў Арсеня Ліса". "Сэнс ёсць толькі ў тым, што ўва мне і са мною, г.зн. у духоўным свеце", і гэта ярка адлюстроўваецца ў творчасці і асобе А. Ліса.

Здароўя Вам і творчых здабыткаў.

***Леакадзія Мілаш,***
***настаўніца беларускай школы,***
***г. Вільня***

# "Беларусь мой Свет"

Пад такой назвай 3 лютага 2004 года адкрылася выстава памяці Яўгена Куліка ў Палацы мастацтваў у Менску па вул. Казлова, 3.

Выстава наладжана Беларускім саюзам мстакоў, творчай суполкай "Пагоня", Рэспубліканскай мастацкай галярэяй.




**Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны"**

**ПРАЦЯГВАЕ ГІСТАРЫЧНЫЯ СЕМІНАРЫ ДЛЯ МОЛАДЗІ МЕНСКА!**

З цікавымі выступленнямі і паведамленнямі пра мінулае і сучаснае нашай сталіцы выступаюць вядомыя беларускія пісьменнікі і гісторыкі. Сярод іх **Кастусь Тарасаў, Вольга Іпатава, Віталь Скалабан, Анатоль Грыцкевіч, Сяржук Кручкоў.**

***Чарговыя сустрэчы адбудуцца***
***з 4 па 12 лютага ў 18.00***
***у сядзібе ТБМ па адрасе: вул. Румянцава, 13***

**4 лютага, 18.00.** Гістарычная тапаграфія і тапаніміка Менска. **Грыцкевіч А. П.**
**5 лютага, 18.00.** Менск у творах беларускіх пісьменнікаў. **Тарасаў К. І.**
**5 лютага, 19.30.** Як стварыць суполку ТБМ? **Кручкоў С. М.**
**6 лютага, 18.00.** Гісторыя ўзнікнення і развіцця беларускіх партый і рухаў у Менску на працягу XX стагоддзя. **Скалабан В. У.**
**7 лютага, 18.00.** Менск у творах беларускіх пісьменнікаў. **Іпатава В. М.**
**10 лютага, 18.00.** Менск у часы сталінскіх рэпрэсій. **Тарасаў К. І.**
**12 лютага, 18.00.** Гістарычная тапаграфія і тапаніміка Менска. **Шыбека З.**

**Запрашаюцца абітурыенты, студэнты і аспіранты з Менска і ваколіц.**

## *Вішуем сяброў ТБМ, што нарадзіліся ў лютым*

Ануфрыенка Валянціна
Асташонак Людміла
Аўкштулевіч Тамара
Бабічаў Антон
Багдановіч Эвеліна
Бекешка Вікторыя
Богуш Мікалай
Болбас Вадзім
Бубен Уладзімір
Бублікава Лілія
Бязрукая Аксана
Вабішчэвіч Таццяна
Вашкевіч Марына
Войткун Галіна
Галякевіч Яўген
Гаравы Леанід
Гарэцкі Іосіф
Гаўрон Алесь
Гельвей Вацлаў
Грыгор'ева Жанна
Гуцалік Галіна
Даніленка Сяргей
Дземідовіч Вольга
Дзеружынскі Авяр'ян
Добыш Генадзь
Драгун Павел
Дубіцкі Віктар
Емяльянава Аляксандра
Жук Мікалай
Жукоўская Л. С.
Забаўская Святлана
Засім Тамара
Іваніцкі Павел
Ігаценка М.І
Камесніковіч Вольга
Канапацкі Ібрагім
Карбановіч Сяргей
Карповіч Лявон
Касаржэўскі Віктар
Касцючык Валянціна
Кішкурна Уладзімір
Клімовіч Наталля
Клімуць Лада
Клімуць Станіслава
Ковель Уладзімір
Коласава Лілія
Корзан Ала
Красоўскі Сяргей
Крук Алена
Крыванос Алеся
Крысюк Людміла
Крэйніна Людміла
Кур'ян Астап
Курыленка Юлія
Кухаронак Аляксандр
Кучынскі Віталь
Лагодская Ірына
Ладыга Сяргей
Лазарэвіч Аляксандр
Лашкоўская Рэгіна
Лецка Ксенафонт
Ліс Тамара
Лявончыкава Дз.
Ляшчынскі Іван
Мазынскі Валер
Макарэвіч Алесь
Макарэвіч Аляксандр
Марачкін Ігар
Матавілава Кацярына
Матэлёнак Леанід
Машнюк Таццяна
Мінько Жанна
Мудроўскі Максім
Мурашка Ігар
Надокунева Ірына
Нікіцін Віталь
Новікава Яна
Нялепа В.
Паўкштэла Сюзана
Петрашкевіч Часлава
Петрушкевіч Ала
Піўко Юрый
Плітко Віктар
Праташчык Людміла
Прохарскі Аляксей
Пухоўская Таццяна
Пяткевіч Марына
Пятроўскі Аляксандр
Ражко Яўген
Райчонак Аляксандр
Рачко Мікалай
Ружыцкі Павел
Русак Андрэй
Рымко Вольга
Рысявец Раіса
Савасцеева Людміла
Садоўская Яна
Сарока Андрэй
Свістун Сяргей
Сідарук Лілія
Старжынскі Андрэй
Строганаў Вадзім
Стэпановіч Язэп
Супрон Алеся
Сцефановіч Галіна
Сянкевіч Мікалай
Трубкін Аляксей
Туровіч Алесь
Утохіна Наталля
Ушакоў Сяргей
Філюта Ніна
Хадневіч Васіль
Хацкевіч Анатоль
Хмянчук Марыя
Ходар Аляксандр
Цэдрык Ганна
Цярэнцьеў Зміцер
Чарнышова Зоя
Чычкан Фёдар
Шашута Алесь
Юрэвіч Сяржук
Язукевіч Ганна
Яканюк Данат
Янушэўскі Віктар
Ярмусік Эдмунд

## *Адказы на крыжаванку са ст. 12.*

**Па гарызанталях:** 1.Шкода. 4.Скокі. 10.Навука. 11.Палова. 13.Чарга. 15.Вятрак. 16.Зводка. 19.Грак. 21.Паркаль. 22.Кара. 23.Грамада. 24.Шчаўчок. 27.Мара. 29.Уласнік. 31.Ахоп. 35.Ганчак. 36.Мастак. 37.Кукіш. 39.Сцілка. 40.Каптур. 41.Склад. 42.Бойка.

**Па вертыкалях:** 2.Клунак. 3.Драч. 5.Капа. 6.Каліва. 7.Пастка. 8.Парсюк. 9.Сведка. 12.Увага. 14.Касач. 17.Гандаль. 18.Злучнік. 20. Крама. 22.Качка. 25.Смага. 26.Апека. 28.Раніца. 30. Спакой. 32Хітрун. 33.Казляк. 34. Каўпак. 37.Кава. 38.Шкло.




## *Ахвяраванні на ТБМ*

1. Казлоўская І.І. – 1400 р., г. Менск
2. Пажцюх В.В. – 5000 р., г. Менск
3. Руткоўская Я.К. – 6000 р., г. Менск
4. Жытко Іван – 5000 г., Камянецкая БШ
5. Рынкевіч В.І. – 3000 р., Юравіцкая БШ, Полацкі р-н.
6. Калашоўніна Л.А. – 2000 р., Юравіцкая БШ, Полацкі р-н.
7. Чаховіч Г.Г. – 1000 р., Юравіцкая БШ, Полацкі р-н.
8. Шкляннік С.В. – 20000 р., в. Бакушчаны, Полацкі р-н.
9. Менская рэфармаван. царква -30000 р.
10. Надзея Барт-Юрэвіч – 50 еўра, Германія
11. Шкірманкоў Фелікс – 10000 р. г. Слаўгарад
12. Алена Кобец-Філімонава -- 5000 р., г. Менск
13. Гарадоцкая рада ТБМ -- 10000 р.
14. Зміцер Санько, Менск -- 5000 р.

Таварыства беларускай мовы пры правядзенні мерапрыемстваў у абарону беларускай мовы нясе значныя матэрыяльныя выдаткі. Просім па меры магчымасці падтрымаць Таварыства.

Просім Вашыя ахвяраванні дасылаць на адрас: вул. Румянцава 13, г. Менск, 220005, альбо пералічыць на разліковы рахунак ТБМ № 3015212330014 у Менскай гардырэкцыі ААТ Белінвестбанка код 764 праз любое аддзяленне ашчадбанка Беларусбанк (камісійны збор пры гэтым не бярэцца).

**Паведамленне**

**Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" УНП 100129705**
атрымальнік плацяжу
**Мінская гарадская дырэкцыя ААТ "Белінвестбанка"**
назва банка
Рахунак атрымальніка **3015212330014** Асабовы рахунак **764**

(прозвішча, імя, імя па-бацьку, адрас)

| Від плацяжу | | | Дата | Сума |
|---|---|---|---|---|
| Ахвяраванні | на дзейнасць | | | |
| ТБМ | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | Пеня | |
| | | | Разам | |

**Касір**

**Плацельшчык**

**Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" УНП 100129705**
атрымальнік плацяжу
**Мінская гарадская дырэкцыя ААТ "Белінвестбанка"**
назва банка
Рахунак атрымальніка **3015212330014** Асабовы рахунак **764**

(прозвішча, імя, імя па-бацьку, адрас)

| Від плацяжу | | | Дата | Сума |
|---|---|---|---|---|
| Ахвяраванні | на дзейнасць | | | |
| ТБМ | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | Пеня | |
| | | | Разам | |

Квітанцыя

**Касір** **М.П.**

**Плацельшчык**





Алесь Петрашкевіч

# Развітанне з Радзімай

## Драма ў дзвюх дзеях

*(Працяг. Пачатак у папяр. нумары.)*

### VI

*Кацярына II працуе за сталом у сваім пакоі.*

*З'яўляецца цырымоніймайстар.*

***Цырымоніймайстар.*** Даруйце, ваша вялікасць. З надзвычай тэрміновым данясеннем з Варшавы князь Рапнін.

***Кацярына II*** *(устрывожана).* Князь Рапнін?!

***Цырымоніймайстар.*** Проста з карэты. У дарожным...

***Кацярына II.*** Прасі...

*Уваходзіць Рапнін, кланяецца.*

Што небудзь здарылася надзвычай сур'ёзнае?!

***Рапнін.*** Царыца-матухна, сойм прызнаў тую клятую канстытуцыю, што я перасылаў вашай вялікасці.

***Кацярына II*** *(устае з-за стала).* Гэта здрада!...

***Рапнін.*** Гэта горш, ваша вялікасць!... Яны рашылі "вырвацца з драпежных капцюроў двухгаловага арла". Гэта іх словы!

***Кацярына II.*** Што можа быць больш за здраду таго, каму мы даверыліся.

***Рапнін.*** Прыняцце канстытуцыі ў Польшчы пасля прыняцця яе ў Амерыцы — гэта бунт супраць Расіі і вашай імператарскай вялікасці асабіста.

***Кацярына II.*** На чыім сумленні гэта подлая канстытуцыя?!

***Рапнін.*** Ініцыятары і аўтары — усё тыя ж энтузіясты дэмакратычных рэформаў Гуга Калантай і Ігнацы Патоцкі, пад уплыў якіх падпаў і яснавяльможны кароль Станіслаў Аўгуст. А больш за здраду тое, ваша вялікасць, што 120 дэпутатаў сойма з 182 пастанавілі ў пяць разоў павялічыць войска Рэчы Паспалітай з тым, каб давесці яго да 100 тысяч жаўнераў.

***Кацярына II.*** У такім разе гэта не проста бунт, а вайна! Граф Панятоўскі збіраецца ваяваць са мною?!.

***Рапнін.*** З вамі, царыца-матухна!...

***Кацярына II.*** Гэта нават добра! Яны атрымаюць вайну! Дарэчы, хто гэтыя рэфарматары — Калантай і Патоцкі?

***Рапнін.*** Не хачу параўноўваць іх з некім вялікім, але на сённяшнім польскім небасхіле гэта фігуры гіганцкія па сваіму ўплыву на інтэлігенцыю і рэвалюцыйную шляхту, ды і караля таксама.

***Кацярына II.*** Прашу вас, князь, болей дакладна і канкрэтна!

***Рапнін.*** Гуга Калантай родам з Украіны, доктар філасофіі і тэалогіі, педагог, выдатны публіцыст. Спачатку быў канонікам кракаўскім, потым стаў дзеячом так званай Адукацыйнай камісіі, аўтар праекту развіцця адукацыі ў Рэчы Паспалітай, рэктар Кракаўскага ўніверсітэта, які рэфармаваў яго на аснове Асветніцтва. Апошнія гады быў рэфендарыем Княства, затым пераехаў у Варшаву, заняўся палітычнай дзейнасцю, зблізіўся з каралём, згуртаваў кола сваіх прыхільнікаў, назваўшы яго "Кузняй Калантая".

***Кацярына II.*** У што кавалася ў той кузні?

***Рапнін.*** Ідэі вызвалення сялян ад прыгону, цэнтралізацыі Рэчы Паспалітай праз больш цеснае аб'яднанне Польшчы з Княствам. Відаць не выпадкова Калантай прызначаны каралём на пасаду каронннага падканцлера. Ён жа, як высветлілася, быў галоўным арганізатарам "Згуртавання сяброў канстытуцыі".

***Кацярына II*** *(з папрокам).* Позна, князь, высветлілася. Вельмі позна...

***Рапнін.*** Разумею, царыца светлая. Вельмі добра разумею...

***Кацярына II.*** А Патоцкі што за гусь?...

***Рапнін.*** Ён нешта большае, чым гусь, ваша вялікасць. Выдатнейшы палітычны дзеяч, асветнік прыбліжаны да караля. У Княстве маршалак вялікі, а цяпер яшчэ маршалак Пастаяннай рады і міністр паліцыі абодвух народаў — фактычны ваенны міністр.

***Кацярына II*** *(у гневе кідае веер на стол).* Вы што, князь, не маглі своечасова адправіць гэтых геніяў-рэфарматараў у Калугу на адсідку, як некалі справадзілі туды епіскапа Солтыка?!

***Рапнін.*** Ваша вялікасць, з тых шчаслівых часоў, калі мы маглі епіскапа Солтыка і іншых польскіх дзеячаў адпраўляць у Калугу, прайшло не толькі васемнаццаць гадоў, але і адбылася Французская рэвалюцыя. І Калантая з Патоцкім сёння можна пасадзіць у Калужскі цэнтрал толькі разам з каралём Станіславам Аўгустам. Але хто на гэта асмеліцца?...

***Кацярына II*** *(адпіўшы вады, пасля доўгай паўзы).* Не чапайце караля... Кароль — ахвяра недабіткаў недабітага Княства і Каралеўства... Мы дапаможам каралю. А Рэчы Паспалітай, што набралася амерыканскай і французскай заразы і рыхтуе нам рэвалюцыю, мы падрыхтуем вайну, хуткую і бязлітасную. Зараза можа выклікаць эпідэмію і ў нас, на святой Русі. Ці вам мала пугачоўшчыны?!

***Рапнін.*** Ваша вялікасць, ёсць усе падставы меркаваць, што канстытуцыя польская не доўга пражыве і стане добраю навукаю каралю.

***Кацярына II.*** На чым такая ўпэўненасць у князя?

***Рапнін.*** Я прывёз з Варшавы вельмі важны дакумент... Ад імя польскіх і вялікакняскіх магнатаў Станіслаў Фелікс Патоцкі, польскі каронны гетман Севярын Ржавускі і каронны гетман Францішак Ксаверы Браніцкі дзеля захавання прывілеяў магнацтва звяртаюцца да вашай вялікасці па ваенную дапамогу.

***Кацярына II*** *(з папрокам і радасцю).* З гэтага, князь, трыба было пачынаць даклад, а не палохаць бедную жанчыну. Аднак, прадаўжайце, князь!

***Рапнін.*** На аснове гэтага звароту наш пасол у Варшаве Булгакаў падаў ураду дэкларацыю аб стварэнні ваеннай Генеральнай канфедэрацыі і ўступленні расійскіх войскаў у Рэч Паспалітую для абароны, як ён піша, "даўніх правоў і вольнасцяў". Я выкарыстаў абоедзве назвы дакумента і маю намер прапанаваць на разгляд вашай вялікасці акт Генеральнай канфедэрацыі, назавём яе Таргавіцшай, які аб'яўляе незаконнай дзейнасць сойму, што парушыў кардынальныя правы, адмяніў шляхецкія вольнасці, асабліва liberum veta, а 3 траўня, учыніўшы рэвалюцыйную змову, устанавіў новую форму ўлады пры выкарыстанні месцічаў, жаўнераў ды ўланаў, хоць гэтага, вядома ж, не было. Рэспубліку ператварыў у манархію, беззямельную шляхту ад раўнасці і свабод адхіліў. У Акце асоба падкрэсліваецца, што Генеральная канфедэрацыя створана ў імя абароны каталіцкай веры, захавання цэласнасці межаў рэспублікі двух народаў і захавання старых вольнасцяў шляхты. Вядома ж, таргавічане звяртаюцца да вашай вялікасці з выказваннем даверу і просяць вайсковай і ўсялякай іншай дапамогі ў святой справе. *(Падае царыцы папку з паперамі).*

***Кацярына II.*** Таргавіцкая канфедэрацыя — гэта надзейна?

***Рапнін.*** Пры нашай стотысячнай арміі — больш, чым надзейна...

***Кацярына II.*** Я аддзячу вам, князь Рапнін, пры паспяховым завяршэнні акцыі дапамогі каралю Рэчы Паспалітай і яе народу. Што да праекту вашага Акта, неадкладна выклікайце ў Пецярбург правадыроў старашляхецкай партыі, што звярнуліся да мяне за дапамогай. Няхай яны падпішуць ваш Акт, які варта абнародаваць у Таргавіцах, але дату на ім паставіць больш раннюю. Мы пачнем наступленне нашых войскаў неадкладна.

***Рапнін.*** Разумею, ваша вялікасць...

*Сцэна зацямняецца.*

### VII

*За сталом у каралеўскім пакоі Панятоўскі, Калантай і Патоцкі.*

***Панятоўскі*** *(да Патоцкага).* Расійскі пасол Булгакаў рвецца на аўдыенцыю. Перш чым слухаць яго, паведай мне, Ігнацы, што нам удалося зрабіць дзеля абароны, бо як паведамілі мае вестуны, яна ўжо кінула своё войска на Княства. З дня на дзень іх кавалерыя можа з'явіцца на межах Польшчы.

***Патоцкі.*** На гэты раз царыца адрэагавала імгненна. Зрабіць удалося не так многа, як патрабуе сітуацыя, але тым не менш: на Украіне заняла абарону армія нашага Юзафа Панятоўскага, у Княстве — армія Людвіка Вірцембергскага, на Навагрудска-Слонімска-Нясвіжскім кірунку рыхтуе абарону галоўнакамандуючы генерал Юдзіцкі. Ствараецца абарончая лінія па Бугу. Там у нас брыгадны генерал Тадэвуш Касцюшка з пяцітысячным войскам. Мае вестуны і віжы таксама даносяць, што расійскія войскі рушылі на нас з усіх магчымых кірункаў.

***Панятоўскі.*** Паслухаем пасла. Думаю, што ён узбагаціць нас весткамі, інакш не рваўся б так настырна на аўдыенцыю. *(Падыходзіць да дзвярэй, адкрывае іх.)* Прашу вас, пан пасол!

*Уваходзіць Булгакаў. Вітае прысутніх лёгкім каўком галавы.*

*Панятоўскі садзіцца на сваё месца за сталом.*

***Булгакаў.*** Яснавяльможны кароль! Па даручэнні яе светласці імператрыцы Расіі Кацярыны II маю праінфармаваць вашу вялікасць аб становішчы, што складаецца на тэрыторыі рэспублікі двух народаў пасля незаконнага прыняцця соймам канстытуцыі ад 3 траўня і ў выніку дзеянняў нашых узброенных сіл і войскаў польскай і вялікакняскай частак Таргавіцкай канфедэрацыі. Стаўлю Вашу каралеўскую вялікасць да ведама, што на Украіну ўвайшлі і паспяхова развіваюць наступ войскі генерала Кахоўскага. Усходнюю Белую Русь войскі генерала Крачэтнікава і канфедэраты прайшлі на маршы, не сустрэўшы сур'ёзнага супраціўлення ні войскаў, ні насельніцтва. Шыман Касакоўскі са сваім войскам уступіў у Вільню і ўрачыста аб'явіў аб стварэнні літоўскай ваеннай Генеральнай кафедэрацыі начале с канцлерам Княства Аляксандрам Сапегам. Да гэтай канфедэрацыі далучыўся біскуп Інфлянцкі. У адной вярсце ад Міра наш генерал Малін разбіў вялікакняскае войска начале з вашым камандуючым Юдзіцкім. Наш слаўны генерал Фезен узяў радзвілаўскую цвердзь у Нясвіжы. Вялікакняскае войска адступае на Горадню і да лініі Буга. Нашы генералы адзначаюць асаблівую адвагу і стойкасць брыгаднага генерала Касцюшкі, які па нашых звестках з пяцітысячным аддзелам стрымаў націск нашага дваццацітысячнага войска і даў магчымасць усёй паўднёвай арміі Юзафа Панятоўскага адыйсці на новыя пазіцыі. Але ж, вядома, што гэта не ратуе ваша становішча, асабліва, калі яе вялікасць імператрыца Кацярына II дасць дазвол Прусіі ўвесці свае войскі ў Польшчу. Патрабуючы ад яснавяльможнага караля далучэння да Таргавіцкай канфедэрацыі яе вялікасць імператрыца ўсея Русі піша *(вымае з-за абшлага сурдута складзены аркуш і зачытвае)*: "Справа ў тым, каб вярнуць рэспубліцы даўнюю свабоду яе і спосаб праўлення, гарантаваны маімі пагадненнямі з ёю і гвалтоўна скінутыя рэвалюцыяй 3 траўня насуперак найсвяшчэннейшым законам".

***Панятоўскі.*** Гэта ўльтыматум?

***Булгакаў.*** Гэта, хутчэй, прапанова на капітуляцыю, каб пазбегнуць кравапраліцця хоць бы ў Польшчы, калі ў Княстве яго пазбегнуць не ўдалося.

***Панятоўскі*** *(пасля доўгай паўзы).* Ты свабодны, пасол...

***Булгакаў.*** Гонар маю! *(Выходзіць).*

***Панятоўскі*** *(скрышаны пачутым).* Пасол мае гонар перад каралём... Сябры мае і паплечнікі, сапраўдныя патрэты і рупліўцы незалежнасці Рэчы Паспалітай! Я падтрымаў вашы рэфармацыйныя ідэі і не пярэчыў супраць канстытуцыі. Цяпер ваша чарга хоць бы паспачуваць мне і не абвінавачваць у здрадзе. Якое цудоўнае будучае чакала б Польшчу, каб не Таргавіцкая канфедэрацыя... Але такі мой сумны лёс. Я заўсёды жадаў дабра сваёй краіне, але толькі нанёс ёй страты... Я капітулюю не па здрадзе, а перад сілаю, жорсткасцю і неадступнасцю, як татара-мангольскае ярмо. Не прыйшоў, відаць, Божы час для нашай Айчыны... Застануся тут у Варшаве. Дам загад войскам спыніць супраціўленне. Падпішу Акт Таргавіцкай канфедэрацыі. Сойм адменіць наша дзецішча — канстытуцыю 3 траўня. Але ў гісторыі яна ўсё ж застанецца другой у свеце і першай у Еўропе. Загнаць мяне ў Калугу яна ўсё ж не пасмее... Перад Еўропай не пасмее... А вам раю, пакуль не позна, з'ехаць у тую ж Еўропу, каб уберагчыся на час ад варвараў Азіі. Не ведаю, як мой, а ваш час яшчэ прыйдзе, бо не можа не прыйсці. Інакш гэта было б боскай несправядлівасцю.

Развітаемся *(усе ўстаюць з-за стала)*, развітаемся, каб хутка сустрэцца. Спыніцеся ў Германіі паблізу ад нашай мяжы. І у Францыю па дапамогу наведайцеся. І каб кузня твая, шаноўны дружа Гуга не гасла. Весткі шліце як найчасцей. *(Абдымае Калантая, потым Патоцкага).*

*Сцэна зацямняецца.*

### VIII

*Кацярына II у сваім пакоі. З'яўляецца цырымоніймайстар.*

***Цырымоніймайстар.*** Ваша вялікасць, з аўдыенцыяй віца-канцлер Остарман!

***Кацярына II.*** Прасі...

*Уваходзіць Остарман, кланяецца.*

З чым важным сёння да імператрыцы, шаноўны віца-канцлер?

***Остарман.*** З другім падзелам Рэчы Паспалітай, царыца-матухна...

***Кацярына II*** *(жартоўна).* Толькі і ўсяго?...

***Остарман.*** Лепш раней, чым ніколі як кажуць рускія. А тут якраз пара.

***Кацярына II.*** Бадай што, сапраўды пара. Але... Але не раней таго, як Прусія ўвядзе свае войскі ў Польшчу.

***Остарман.*** Залатыя словы і своечасова сказаныя.

***Кацярына II.*** Што чуваць пра стваральнікаў канстытуцыі?

***Остарман.*** Зніклі ў невядомым кірунку. А кароль Станіслаў Аўгуст пад рознымі хітрыкамі адмаўляецца ехаць на сойм у Горадню.

***Кацярына II.*** У такім разе неадкладна трэба перадаць праз прускага пасланніка графа Гольца маю згоду іх каралю аб увядзенні сваіх войск у Каралеўства. Я ж у сваю чаргу неадкладна прызначу ў Варшаву новым пасланікам Сіверса, а новым камандуючым у Рэчы Паспалітай... барона Ігельстрома. А зараз скажыце мне, на чым сышліся іншыя мае дзяржаўцы адносна другога падзелу так званай дзяржавы двух народаў?

*(Працяг у наступным нумары.)*

# СРЭБНЫ КОННІК

*У Менску пабачыў свет зборнік вершаў маладзечанскага паэта Лявона Цімохіна "Срэбны коннік". Кніга аздобленая фотаздымкамі з архіву Алега Мядзведзева і прадмовамі Алеся Мары ды Васіля Гроднікава.*

***"Угледзеў я неба расчыненае: і вось конь белы, і коннік на ім называны Верным і праўдзівым, што па праўдзе судзіць і ваюе..."***
***Апостал Ян.***



*Лявон Цімохін*

### "АДКРЫЦЦЁ"

Гляджу на полымя кастра,
Пад белым попелам вуголле –
Бядой крывавай у нядолю
Мая Айчына паплыла...
Хрыстовай праўды касінёры
Расейскім сколаты штыком:
Над Краем, дзе патухлі зоры,
Не замаўкае Божы гром.
Касцёр палае, мкнуць у нябёсы
Да Бога іскры-пасланцы,
Сям-там шчэ ў лузе звоняць косы,
Мне ж у сэрца стукаюць ганцы –
Завуць мяне!
Завуць у Пагоню!
Лунае полымя, як сцяг...
Гарцуе ў іскрах срэбны Коннік.
Ён вечна дома. Мы – у гасцях...

### ЗОЛАК
***На смерць Генадзя Карпенкі***

Холадна сёння, і вецер
Круціць віхры ў наваколлі,
Хмары, і сонца не свеціць –
Сэрца сціскаецца болем.
Колькі мы гора спазналі,
Колькі нягод і адчаю!
Ветра цыганскага хвалі
Мора бяды разгайдалі.

Па-над знявераным людам
Пошасць зласлівa рагоча,
Зморaны люд хмельным блудам,
Сонныя, мутныя вочы...
Холадна сёння, і вецер
Вытрымаць сэрца не можа.
Я – бы адзін у цэлым свеце...
Божа! Ласкавы мой Божа!
Божа Святы, Ўсемагутны,
Божа – Заступнік і Збаўца,
Ветла зірні на пакуты
Тых, хто ўжо ледзьве трымаецца.
Хто ўжо не зносіць у адчаі
Здраду, хлусню і знявагу,
Хто ў сваім родным краі
Кленчыць, губляе адвагу.
Божа Святы, Літасцівы,
Глянь на народ Беларусаў:
Бура вірує над нівай,
Град над палеткам Ісуса.
Ойча, ласкавы, адзіны!
Сэрца знямела ў трывозе...
Госпадзе: Духа і Сына
Просім аб дапамозе!




### КУРГАН

Пісаць пра зоры, пра аблокі,
Пра ружы цвет, пах палыну
Прыйшоў я на курган высокі...
Не атрымалася – імкну
Ў даль вякоў, у свет змаганняў,
У ранні золак тых часоў.
Якія толькі на кургане
Сівым пачуеш. Хоць зышоў
І сплыў той час у далягляды:
Час не павернеш наўзварот,
Дарог яго не змерыш! Рады
Яму не даць. Ды каб хто змог
Той час вярнуць. Кургана клады
Рукой крануць – то бы аглох
Ад тупату святой Пагоні,
Ад рэха, што ідзе з Зямлі,
З Кургана. Чуеш? – грозна коні
Заіржалі, бітву пачалі
З навалай браткі-беларусы
За свет шчаслівы, вольны край,
Каб іх нашчадкі без прымусу
Ішлі на працу – цёмны гай
Палілі спосабам падсечным,
І з мёду хмельны мёд варылі,
Каб смела, шчыра і сардэчна
На роднай мове гаварылі.
З сябрамі. З ворагам – дастойна
Жалезнай мовай размаўлялі
І на граніцах краю вольнага,
Каб варту моцную трымалі:
Памежны сыпалі курган,
Каб з вышыні варожы стан
Угледзець, рацъ на бой сабраць,
Насмерць стаяць!
За гонар продкаў спарахнелых,
За Волю ў сваёй Зямлі,
Што клічуць у свеце Руссю Белай!
Яны так многае маглі...
А мы? Стаю я на кургане,
А ён, як выспа ў акіяне,
Наўкол цунамі, землятрус,
Курган вось-вось у нетру кане...

Пад гром і стрэлы Перуновы
Збудзіўся, бачу свет узноў я:
Курган сівы, зьмшэлы, ціша,
Узвей-вецер травамі калышыць,
Бярозкі, сосны, верасок...
Спі, продак мой, я незнарок
Прыйшоў сюды, складаю вершы.
Я не апошні – прыйдуць лепшыя!

# Беларуская афіша

Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы запрашае на сустрэчу з Людмілай Паўлікавай і Алесем Камоцкім "Паэт і лампада", якая адбудзецца **12 лютага** а 18-й гадзіне ў музеі Янкі Купалы (вул. Я. Купалы, 4, тэл. 227-78-66.)

**14 лютага** ў Палацы культуры ветэранаў адбудзецца прэзентацыя новага альбома барда Віктара Шалкевіча "За сто крокаў ад Вострае Брамы або геаграфія ВКЛ і ваколіцаў". Пачатак 19:00. Кошт квіткоў ад 5000 да 7000.

**!Калі Вы жадаеце зрабіць матар'ял з Віктарам Шалкевічам тэлефануйце: 6399019.**

*19 лютага ў клубе "Танэль" пройдзе сярэднявечная дыскатэка з гуртом "Стары Ольса". Пачатак 19:00. Кошт квітка 6 500. У кошт квітка ўваходзіць каляровы плакат гурта.*

*Сярэднявечная дыскатэка – новы для беларусі від забаваў і адпачынку, асноўны сэнс якога – перанесціся ў далёкія 14-16 стагоддзі, паслухаць жывую старую музыку і даўно забытыя інструменты, папіць непастырызаванае беларускае піва і патанчыць старадаўнія танцы. Гэты доўгатэрміновы клубны праект заснавалі гурт сярэднявечнай беларускай музыкі "Стары Ольса" і прадзюсарскі цэнтр "Беларуская музычная альтэрнатыва". Першая спроба ажыццявіць такі вечар ужо была здзейснена і прайшла надзвычай паспяхова. Вялікую цікавасць да такіх старых танцавальных вечарын выказваюць удзельнікі рыцарскіх клубаў Беларусі, усе, хто цікавіцца гісторыяй, а таксама ўсе, хто любіць таньчыць і адпачываць у незвычайных умовах! Вітаецца выкарыстанне ўсімі наведвальнікамі старой вопраткі і сярэднявечных строяў!*

**! Калі Вы жадаеце зрабіць матар'ял пра гурт "СТАРЫ ОЛЬСА" тэлефануйце: 6636879, а таксама зьвяртайцеся на сайт: www.staryolsa.com.**

# Крыжаванка "Адновім мову"

## *Перакласці на беларускую мову*

***Склаў Віктар Сухараў***



**Па гарызанталях:** 1.Мелкий вред, ущерб. 4.Танцы, пляска. 10.Поучение, наставление. 11.Мякина. 13.Очередь. 15.Ветряная мельница. 16.Сводка. 19.Грач. 21.Ситец. 22.Наказание, возмездие. 23.Толпа, ватага. 24.Щелчок. 27.Мечта. 29.Собственник. 31.Охват. 35.Гончая собака. 36.Художник. 37.Фига, шиш. 39.Стелька. 40.Чепец. 41.Слог (грам.). 42.Драка, потасовка.

**Па вертыкалях:** 2.Котомка. 3.Коростель. 5.Пикейное покрывало. 6.Стебелек, отдельное растение. 7.Западня. 8.Боров, кабан. 9.Свидетель. 12.Внимание. 14.Ирис. 17.Торговля. 18.Союз (грам.). 20.Лавка, магазин. 22.Утка. 25.Жажда. 26.Попечительство. 28.Утро. 30.Спокойствие. 32.Хитрец, плут. 33.Масленок (гриб). 34.Колпак. 37.Кофе. 38.Стекло.

*(Адказы можна праверыць на ст. 9.)*

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

***Заснавальнік:*** ТБМ імя Францішка Скарыны.
***Пасведчанне аб рэгістрацыі:*** № 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
***Адрас рэдакцыі:*** 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
***Адрас для паштовых адпраўленняў:*** 231300, г. Ліда-2, п/с 7.
***E-mail:*** ns@lida1.lingvo.grodno.by
**http://tbm.org.by/ns/**



***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі***

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні. 231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 2. 02. 2004 г. Замова № 202.
Аб'ём 3 друкаваныя аркушы. Наклад 3500 асобнікаў.
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 1250 руб., 3 мес.- 3750руб.
***Кошт у розніцу:*** 295 руб. (у Менску - 310 руб.)